



# Рэгіянальная газета. Rh.by

rg_rhby
rh_by

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета».

4 чэрвеня 2021 года №23 (1362)

18+


# Вязу-старажылу ў Верхніх Талуях урачыста «ўручылі» пашпарт

**Імпрэза прайшла ў вёсцы якраз перад Сусветным днём навакольнага асяроддзя. А пачалася гісторыя з публікацыі ў «Рэгіянальнай газеце» ў 2013 годзе.**





старонка 2

Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

У гаспадарках рэгіёна гіне скаціна. Чаму?

старонка 3

Чаму сосны так любяць маладзечанскі лес

старонка 5

Гальшанскаму «тэрарысту» пакінулі прысуд без змяненняў

старонка 20

Першакласнікі СШ №8 з Маладзечна зладзілі музей у чамадане

старонка 8

ISSN 1991–7155




Адскануйце QR-код, каб перайсці на наш сайт rh.by



# Вязу-старажылу ў Верхніх Талуях урачыста «ўручылі» пашпарт

## А побач адкрылі помнік дрэву і вёсцы

МАЛАДЗЕЧНА

**У гэтым вязе было дупло, у якое хаваліся мясцовыя дзеці. Калі залезці наверх, можна было ўбачыць будынак вілейскай турмы. А яшчэ на ствале дрэва ёсць трон. Той, хто пасядзіць на ім, набярэцца добрай энергіі. Пра свой вяз вяскоўцы ў Верхніх Талуях расказваюць шмат.**


Падчас адкрыцця памятнага знака.

Фота Аляксандра МАЦЭВІЧА.

Тым больш, 1 чэрвеня была нагода. Старому дрэву «ўручылі» пашпарт аб прызнанні яго батанічным помнікам рэспубліканскага значэння. Адпаведную пастанову Мінпрыроды прыняло 5 красавіка. А побач з дрэвам адкрылі мемарыяльную дошку – памятны знак у выглядзе кнігі. На адной старонцы – звесткі пра вяз, на другой – пра вёску Верхнія Талуі. Цяпер і турысты, і мясцовыя будуць ведаць, што Верхнія Талуі ўпершыню згадваюцца ў 1606 годзе, а вяз – амаль сем метраў у ахопе, 25 метраў – у вышыню і мае плошчу кроны 383 квадратныя метры.

### Што гаварылі на імпрэзе пра вяз

– Я мясцовая. У дзяцінстве, у 1960-х, хавалася ў поўны рост у дупле вяза. Цяпер дупло зацягнулася, – расказвае карэспандэнтам **Ніна Башко**, якая прыязджае ў бацькоўскі дом у Верхнія Талуі з Маладзечна. – Заўважыла, што на ствале вяза можна разгледзець розныя вобразы: то старога чалавека, то маладзейшага, то нейкіх жывёл. А яшчэ на ствале ўтварыўся трон. Мы кожны раз, як прыязджаем, садзімся на трон і набіраемся энергіі. А вось гэта сажалка раней мела глыбіню тры метры. Побач з вязам стаяла лазня з бярвення, куды хадзілі мыцца ўсе вяскоўцы. Ваду для лазні бралі з сажалкі. А некаторыя, памыўшыся, адразу акуналіся ў яе. Мой бацька некалі ледзь тут не ўтапіўся. З часам сажалка зацягнулася, яе чысцілі, коньмі даставалі глей. А летась, каб паглыбіць вадаём, дапамог сельсавет. Я ганаруся сваёй вёскай, мяне заўсёды цягне сюды. Рада, што наш вяз, а разам з ім і вёска набылі такі высокі статус.

Віляйчук, доктар і краязнаўца **Міхась Міхалевіч** прыгадаў, як у 2013 годзе ўпершыню апублікаваў у «Рэгіянальнай газеце» звесткі пра вяз-старажыл. Тады, памераўшы дрэва, ён зразумеў: вяз, верагодна, самы вялікі ў Беларусі.

Ідэю пра наданне вязу статусу батанічнага помніка падтрымаў начальнік Маладзечанскай раённай інспекцыі аховы навакольнага асяроддзя **Уладзіслаў Чарноў**.

– Ад таго часу, калі я ўпершыню пабачыў дрэва, і да надання яму статусу помніка прайшло 11 год. І я вельмі рады, што дрэва набыло ахоўны статус, што разам дзейнічалі аматары, мясцовая супольнасць, сельвыканкам і іншыя дзяржаўныя службы, – адзначыў Міхалевіч.

### З вяза было бачна вілейскую турму

Словы ўдзячнасці ад прадстаўнікоў улады гучалі ў адрас ураджэнца і жыхара вёскі **Івана Дурэйкі**. Ён ладзіў прыборкі каля вяза, хадзіў на прыём да начальніка Камітэта па ахове навакольнага асяроддзя, дабіваўся таго, каб паглыбіць вадаём каля дрэва, стварыў дабрачынны рахунак на паглыбленне вадаёма каля вяза. Менавіта па яго ініцыятыве паставілі помнік вязу і вёсцы Верхнія Талуі. Сёння Івана Дурэйку лічаць галоўным захавальнікам унікальнага дрэва.

– Цешыць, што нарэшце настаў выніковы этап нашага праекта. Тое, што было задумана намі, здзейснілася. Канешне, без дапамогі Маркаўскага сельвыканкама, Маладзечанскай інспекцыі аховы навакольнага асяроддзя, ПМК-32, водаканала, «Спецбудмеханізацыі» мы наўрад ці справіліся б. Яны вырашалі тэхнічныя пытанні. Астатняе было за намі. Гэты вяз памятаю столькі, колькі сябе. Дзецьмі гулялі тут у жмуркі, залазілі наверх. Праўда, не на самую вяршаліну, а наколькі маглі. Астатнія дрэвы навокал тады былі нізкія. Таму з вяза бачылі Вілейку і белы будынак турмы на гары, – падзяліўся з карэспандэнтам Іван Дурэйка.

На мерапрыемстве прысутнічалі прадстаўнікі Мінпрыроды, Камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Міншчыны, Маладзечанскага райвыканкама, раённай інспекцыі аховы прыроды, работнікі Маладзечанскага лясгаса, жыхары Верхніх Талуёў і суседніх вёсак. А калектыў «Маркаўчанка» Маркаўскага Дома культуры аздобіў імпрэзу беларускімі песнямі.

У 2018 годзе Іван Дурэйка і Міхаіл Міхалевіч сталі пераможцамі штогадовай прэміі «Рэгіянальнай газеты» «Асоба года» ў намінацыі «Натхненне года» за клопат пра найстарэйшы вяз у Беларусі.

**Аксана ЯРАШОНАК.**


Адкрыццё шыльды.

Фота Аксаны ЯРАШОНАК.


Іван Дурэйка.


Міхась Міхалевіч.


Ніна Башко.



Фота Настассі УКІНАЙ.

Так выглядала капліца ў Ручыцы восенню 2020 года.

# Капліцу ў Ручыцы плануюць даследаваць ужо гэтым летам

## Аб'явілі тэндар

**На Вілейшчыне мясцовыя ўлады хочуць правесці навукова-даследчыя і праектныя працы на месцы былой сядзібы Агінскага ў вёсцы Ручыца. Ад яе да нашага часу захавалася толькі адна капліца.**

ВІЛЕЙКА

### Што хочуць даследаваць?

У закупцы – два лоты.

**Першы**. Патрабуецца навукова-даследчая праца – гісторыка-архіўныя і бібліяграфічныя даследаванні 19 стагоддзя, складанне рэстаўрацыйнага задання, выкананне натурных даследаванняў – вызначэнне матэрыяльных вартасцяў будынка. Патрэбны таксама гісторыка-архітэктурны план, план ландшафтнага аналізу комплексу каштоўнасцяў рэштак былой сядзібы Агінскага – вадаём, рэшткі дзвюх капліц.

За ўсю гэту працу прапануюць чатыры тысячы рублёў. Грошы збіраюцца даць з сельскага бюджэту. Тэрмін выканання – май-чэрвень 2021 года.

**Другі**. Правядзенне праектных прац – выкананне прац – вызначэнне межаў і рэжыму ўтрымання зон аховы архітэктурнага комплексу; фотафіксацыя, дакументальна-пратакольная сістэма, складанне фотаальбома і навукова-тэхнічных запісак.

За гэту працу прапануюць дзве тысячы рублёў. Тэрмін выканання – чэрвень-ліпень 2021 года. Грошы выдаткуюць з сельскага бюджэту Нароцкага сельвыканкама.

Нагадаем, што капліца 18 стагоддзя ў Ручыцы рухнула ў кастрычніку 2020 года. Капліца – тое, што засталося ад некалі вядомага маёнтка Агінскіх Ганута. Велічны палац і гаспадарчы двор быў пабудаваны ў 1765 годзе вядомым італьянскім архітэктарам у стылі барока з элементамі ракако. У гэты ж час з'явілася і капліца, пра якую ідзе гаворка.

**Аддзел інфармацыі паводле goszakupki.by.**

# Дзяржкантроль: У гаспадарках рэгіёна няправільна ўтрымлівалі жывёлу

**Камітэт дзяржкантролю Міншчыны ў чарговы раз звярнуў увагу органаў выканаўчай улады вобласці на асноўныя праблемныя пытанні ўтрымання жывёлы ў мінулы зімова-стойлавы перыяд 2020-2021 гадоў, якія ўплываюць на захаванасць пагалоўя.**

Гэта неналежная падрыхтоўка і догляд жывёлагадоўчых аб'ектаў, невыкананне рацыёну кармлення жывёлы, невыкананне ўстаноўленых правілаў захоўвання кармоў і іх нізкая якасць. Заўважылі больш за 285 падобных фактаў.

Пра актуальнасць пытання сведчаць і справаздачы – рост падзяжу скаціны па выніках студзеня-сакавіка быў 10 з 22 раёнаў вобласці. Пры гэтым у асобных сельгасарганізацыях ААТ «Лошніцкі Край» Барысаўскага, ААТ «Новая Любанія» Вілейскага, КСУП «Таліца-Агра», ААТ «Асавец-Агра» Любанскага, ААТ «1-я Мінская птушкафабрыка Мінскага, КСУП «Відзеўшчына» Маладзечанскага, ААТ «Наднёман» Уздзенскага, філіяле «Агра-Бокс Заатэх» СП «Унібокс» Чэрвеньскага раёнаў тэмпы росту падзяжу жывёлы істотныя.

Кантроль за прыняццем мер працягнуць. Улічваючы заўважаныя ў зімова-стойлавы перыяд 2020-2021 гадоў факты закупу травяных кармоў 26 арганізацыямі 11 раёнаў (Валожынскі, Дзяржынскі, Любанскі, Маладзечанскі, Мядзельскі, Пухавіцкі, Слуцкі, Смалявіцкі, Салігорскі, Стаўбцоўскі, Чэрвеньскі) асаблівую ўвагу нададуць кантролю якасці арганізацыі корманарыхтоўчай кампаніі.

**Камітэт дзяржкантролю Мінскай вобласці.**

**ЛІЧБА НУМАРА**

**19,9 %**

столькі дзяцей жыве ў Беларусі ў сельскай мясцовасці

**Паводле Белстата.**

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 27.05 | 3.06 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| **Долар ЗША** | 2.5062 | **2.5383** |
| **Еўра** | 3.0687 | **3.0950** |
| **Злоты, 10** | 6.8265 | **6.9196** |
| **Расійскі рубель, 100** | 3.4120 | **3.4547** |
| **Грыўня, 100** | 9.0927 | **9.2819** |
| Курсы ў «Банку БелВЭБ» | **27.05** | **3.06** |
| **Еўра** | 3.0200/3.1200 | **3.0500/3.1400** |
| **Долар ЗША** | 2.4750/2.5400 | **2.5000/2.5700** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 26.05 | 2.06 |
|---|---|---|
| | Цана, руб. | |
| **Кілбаса «Мядовая», 1 кг** | 24,93 | **24,93** |
| **Кураня-бройлер, 1 кг** | 4,40 | **4,40** |
| **Сасіскі, 1 кг** | 7,87 | **7,87** |
| **Свініна (выразка), 1 кг** | 9,00 | **9,00** |
| **Мінтай свежамар., 1 кг** | 4,50 | **4,50** |
| **Селядзец, 1 кг** | 6,80 | **6,90** |
| **Скумбрыя х/в, 1 кг** | 18,90 | **18,90** |
| **Грэчка, 0,8 кг** | 2,30 | **2,30** |
| **Рыс, 0,8 кг** | 2,40 | **2,40** |
| **Алей, 1 л** | 4,90 | **4,90** |
| **Кава «Nescafe», 100 г** | 4,80 | **4,80** |
| **Маянэз, 400 г** | 2,60 | **2,60** |
| **Соус «Мінскі», 0,5 л** | 1,80 | **1,80** |
| **Шпроты, бляшанка, 160 г** | 2,00 | **2,00** |
| **Яйкі курыныя, 1 дз.** | 2,40 | **2,40** |
| **Агуркі, 1 кг** | 2,40 | **2,50** |
| **Баклажаны, 1 кг** | 6,80 | **6,00** |
| **Бульба маладая, 1 кг** | 2,50 | **2,60** |
| **Буракі, 1 кг** | 1,20 | **1,00** |
| **Капуста маладая, 1 кг** | 1,70 | **1,80** |
| **Морква, 1 кг** | 1,80 | **1,40** |
| **Памідоры, 1 кг** | 3,90 | **3,80** |
| **Перац, 1 кг** | 8,50 | **8,50** |
| **Радыс, 1 кг** | 2,50 | **2,00** |
| **Цыбуля рэпчатая, 1 кг** | 1,20 | **1,40** |
| **Часнок, 1 кг** | 8,50 | **7,50** |
| **Шампіньёны, 1 кг** | 5,90 | **5,90** |
| **Абрыкосы, 1 кг** | 8,90 | **7,50** |
| **Апельсіны, 1 кг** | 4,90 | **6,00** |
| **Бананы, 1 кг** | 3,80 | **3,50** |
| **Вінаград, 1 кг** | 8,90 | **8,50** |
| **Грушы, 1 кг** | 5,50 | **6,50** |
| **Кавуны, 1 кг** | 1,50 | **1,50** |
| **Клубніцы, 1 кг** | 12,00 | **10,00** |
| **Лімоны, 1 кг** | 4,90 | **5,50** |
| **Мандарыны, 1 кг** | 3,50 | **3,50** |
| **Нектарыны, 1 кг** | 7,50 | **8,00** |
| **Чарэшні, 1 кг** | 11,90 | **12,00** |
| **Яблыкі, 1 кг** | 2,30 | **2,20** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| **Малако, 1,5 л** | 1,70 | **1,70** |
| **Масла, 1 кг** | 18,00 | **18,00** |
| **Сала, 1 кг** | 13,00 | **13,00** |
| **Сыр, 1 кг** | 14,00 | **14,00** |
| **Тварог, 1 кг** | 8,00 | **8,00** |
| **Яйкі, 1 дзясятак** | 4,00 | **4,00** |

## Мужчыну падазраюць у незаконным абароце наркотыкаў

МАЛАДЗЕЧНА

27-гадовы маладзечанец вярнуўся на асабістым аўто ў Маладзечна з Мінска пасля куплі чарговай партыі наркотыкаў і быў затрыманы аператыўнікамі наркакантролю і супрацоўнікамі патрульна-паставой службы міліцыі Маладзечанскага РАУС.

Пры асабістым даглядзе ў кішэні ў затрыманага аператыўнікі знайшлі поліэтыленавы пакет з парашком светлага колеру. Экспертыза ўстанавіла, што дадзенае рэчыва – сінтэтычны наркотык масай 0,44 грама.

Па словах затрыманага, наркотык ён набыў праз інтэрнэт і забраў у сталіцы з закладкі. Частку ўжыў па дарозе ў Маладзечна. Астатні наркотык захоўваў, каб выкарыстаць пазней.

Фігуранта змясцілі ў ГЧУ Маладзечанскага РАУС. У дзеяннях падазраванага ўгледжваюць прыкметы складу злачынства, прадугледжанага артыкулам «Незаконны абарот наркатычных сродкаў, псіхатропных рэчываў, іх прэкурсораў і аналагаў», санкцыя якога прадугледжвае да пяці гадоў пазбаўлення волі. Сёлета ў лютым мужчына вызваліўся з месцаў пазбаўлення волі пасля адбыцця пакарання за незаконны абарот наркотыкаў.

**РАУС Маладзечна.**

## ДАІ шукае сведкаў і відавочцаў красавіцкіх аварый

МАЛАДЗЕЧНА

Аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС шукае сведкаў і відавочцаў здарэнняў.

30 красавіка каля чатырох гадзін дня 47-гадовая жыхарка Маладзечна, кіруючы аўтамабілем «Хонда», ехала па вуліцы Будаўнікоў. Каля дома №4 не саступіла дарогу 11-гадовай дзяўчынцы, што пераходзіла злева направа па ходу руху аўтамабіля на нерэгуляваным пешаходным пераходзе. Непаўнагадовая атрымала цялесныя пашкоджанні.

23 красавіка каля паловы дзясятай вечара кіроўца на «Форд-Мандэа», рухаючыся паблізу дома №83 па вуліцы Савецкай у Палачанах, наехаў на 77-гадовую жанчыну, што ішла па аўтадарозе па-за пешаходным пераходам. Ад атрыманых траўмаў жанчына памерла.

Просьба сведак і відавочцаў дадзеных здарэнняў звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС на адрас: **Маладзечна, вуліца Дудко, 1-18 або па тэлефонах: (8 0176) 74-01-40, 74-01-43 ці 102.**

**Дыяна ГАЛУЗА, АДАІ Маладзечна.**

## Кіроўца атрымаў траўму, выходзячы з машыны

СМАРГОНЬ

25 мая ў Смаргоні адбылася аварыя. У ёй пацярпеў кіроўца, які выходзіў з салона аўтамабіля.

Каля паловы 12-й дня 69-гадовы кіроўца «Міцубісі» рухаўся заднім ходам па дваровай тэрыторыі на вуліцы Дзяругі. Мясцовы жыхар праявіў няўважлівасць і сутыкнуўся з аўтамабілем, які стаяў у двары. «Міцубісі» стукнулася ў левыя пярэднія дзверы, з якіх выходзіў кіроўца.

43-гадовы мужчына атрымаў цялесныя пашкоджанні – пералом нагі. Пасля аказання медыцынскай дапамогі яго адпусцілі дадому. Па факце здарэння праводзіцца праверка.

**Паводле УУС Гродна.**

## Тэлеграм-канал прызналі экстрэмісцкім

АСТРАВЕЦ

Суд Астравецкага раёна прызнаў мясцовы тэлеграм-канал «Астравец для жыцця» экстрэмісцкім.

Пракурор Астравецкага раёна звярнуўся ў суд з заявай аб прызнанні інфармацыйнай прадукцыі тэлеграм-канала «Астравец для жыцця» экстрэмісцкімі матэрыяламі.

У астравецкім судзе высветлілі, што ў тэлеграм-канале ўтрымліваюцца заклікі да экстрэмісцкай дзейнасці: блакіроўкі руху на аўтамабільных дарогах, хуліганскіх дзеянняў, актаў вандалізму, супрацьдзеяння супрацоўнікам органаў унутраных спраў, знішчэння ці пашкоджання іх маёмасці ў мэтах перашкоды іх законнай дзейнасці альбо з-за помсты за выкананне службовых абавязкаў. Таксама ў канале знайшлі каментары з абразамі і пагрозамі ў адрас сілавікоў, чыноўнікаў, членаў іх сямей.

Суд ухваліў заяву пракуратуры: тэлеграм-канал уключаны ў спіс экстрэмісцкіх матэрыялаў.

**Паводле прэс-службы Генпракуратуры Беларусі.**



Фота chefmarket.ru.

Наведнік не дачакаўся адміністратара, каб замовіць ежу.

# П'яны мінчанін у чатыры раніцы ламаўся ў рэстаран хуткага харчавання

МАЛАДЗЕЧНА

**Днямі ў Маладзечне міліцыя затрымала нецвярозага маладога чалавека, які пад раніцу хацеў зakупіцца ў акенцы рэстарана хуткага харчавання.**

Не дачакаўшыся, пакуль да акна выдачы заказаў падыдзе адміністратар, хлопец нагой разбіў фасадную плітку. Пасля чаго стаў ламацца ў шкляныя ўваходныя дзверы. Уціхамірыць наведніка давялося міліцыянерам.

Кнопка трывожнай сігналізацыі спрацавала ў рэстаране хуткага харчавання каля чатырох гадзін раніцы. Інфармацыя з пульта дзяжурнага пазаведамаснай аховы была перададзена ў РАУС. На месца здарэння неадкладна выбылі супрацоўнікі міліцыі.

Супрацоўнікі Дэпартамента аховы затрымалі 23-гадовага жыхара сталіцы. Медыцынскі агляд пацвердзіў, што мінчук быў моцна п'яны. На месцы здарэння працавала следча-аператыўная група. У ходзе высвятлення ўсіх абставін праваахоўнікі вывучылі запісы з камер відэаназірання. Суму матэрыяльнай шкоды арганізацыя ацаніла амаль у 170 рублёў.

Патлумачыць матывы свайго ўчынку малады чалавек так і не змог, быў п'яны. Раней фігурант двойчы прыцягваўся да адказнасці за незаконны абарот наркотыкаў і праходзіў прымусовае лячэнне ад таксікаманіі.

Дэбашыр добраахвотна кампенсаваў страты. Яго дзеянні следчыя кваліфікавалі па артыкуле «Хуліганства».

**РАУС Маладзечна.**

## Аўтамабіль збіў дзяўчынку і з'ехаў. Вінаватага кіроўцу шукае міліцыя

МАЛАДЗЕЧНА

26 мая ў прамежак часу ад 07:55 да 08:10 ад наезду невядомай машыны ў Маладзечне пацярпела дзяўчынка.

– Кіруючы аўтамабілем сіняга колеру, меркавана з таніраванымі вокнамі, кіроўца выязджаў з двара паміж дамамі №7 і №11 па вуліцы Касманаўтаў. Паблізу дома №7 аўтамабіль не саступіў дарогу пешаходу – дзевяцігадовай дзяўчынцы, якая пераходзіла дарогу па лініі тратуара злева направа па ходу руху машыны.

У дзяўчынкі – цялесныя пашкоджанні, а кіроўца ўцёк з месца здарэння ў кірунку Вялікага Гасцінца, – расказала інспектар па адміністрацыйнай практыцы АДАІ Маладзечанскага РАУС **Дыяна Галуза**.

ДАІ просіць сведак і відавочцаў дадзенага здарэння звярнуцца ў аддзел ДАІ Маладзечанскага РАУС на адрас: **Маладзечна, вуліца Дудко, 1-18** або па тэлефонах: **(8 0176) 74-01-40, 74-01-43** ці **102**.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## Аўтамабіль збіў пенсіянерку

ВІЛЕЙКА

27 мая ўдзень аўтамабіль збіў жанчыну на скрыжаванні вуліц 1 Мая – 17 Верасня ў Вілейцы. Жанчыну з траўмамі шпіталізавалі.

– На месца выязджала следча-аператыўная група. Вілейскія следчыя ўстанаўліваюць ступень цяжкасці траўмы і перададуць справу ў РАУС, – паведаміла афіцыйны прадстаўнік Упраўлення Следчага камітэта па Мінскай вобласці **Алена Крупеніна**.

Па яе словах, ад наезду пацярпела 83-гадовая жанчына.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

## У аварыі пацярпеў 16-гадовы пасажыр

МЯДЗЕЛЬ

У Мядзельскім раёне ў ДТЗ пацярпеў непаўнагадовы пасажыр.

Інцыдэнт адбыўся 26 мая каля трох гадзін на чацвёртым кіламетры аўтадарогі Р60 Купа – Занарач – Брусы. 22-гадовы жыхар Мядзельскага раёна на машыне «Хундай-Акцэнт» няправільна выбраў хуткасць руху, не справіўся з кіраваннем, з'ехаў у кювет і перакуліўся.

У выніку аварыі пацярпеў 16-гадовы пасажыр на заднім сядзенні. Дзесяцікласнік, жыхар Мядзельскага раёна, з траўмамі быў шпіталізаваны. Па факце ДТЗ праводзіцца праверка.

**Паводле БелТА.**

## У рэгіёне працавалі сапёры

ВІЛЕЙКА

У Вілейцы на сваім лецішчы мужчына знайшоў снарад. Пра гэта карэспандэнту расказаў выканальнік абавязкаў намесніка начальніка РАУС **Дзмітры Садоўскі**.

Па яго словах, 26 мая, увечары, у міліцыю Вілейкі звярнуўся мужчына. Паведаміў, што будаўнікі працавалі на ўчастку і знайшлі прадмет, падобны да снарада, у яго на лецішчы: у Вілейцы, па вуліцы Восеньскай.

Спецыялісты, якія прыехалі на месца, усталявалі, што знойдзены прадмет – сапраўды 76-міліметровы артылерыйскі снарад з узрывальнікам. Сапёры знішчылі знойдзены снарад каля Даманова.

**Аксана ЯРАШОНАК.**

# Чаму сосны так любяць маладзечанскі лес

## Для чаго нашы продкі садзілі дубы? І чаму цацкі і гаспадарчыя прылады рабілі з елкі? А чаму паліць печку лепш за ўсё бярозай?

Падрабязна пра лес і яго асаблівасці расказаў галоўны ляснічы дзяржаўнай лесагаспадарчай установы «Маладзечанскі лясгас» **Андрэй Шыбека**.




Сярод дрэў маладзечанскага лесу больш за палову – сосны.

### Які лес на Маладзечаншчыне

Маладзечанскі лясгас размешчаны на тэрыторыі Маладзечанскага, часткова Валожынскага, Вілейскага і Мінскага раёнаў. Плошча лясгаса складае каля 49 тысяч гектараў.

У лясах лясгаса пераважна растуць хвойныя пароды, доля такіх насаджэнняў прыблізна 78,3%. Сярод іх сасна, якая складае 58,4% ад усёй колькасці. Астатнюю плошчу займаюць іншыя лесаўтваральныя пароды – мяккалісцевыя (бяроза, асіна, вольха) – 20%, цвёрдалісцевыя (дуб і ясень) – 1,7%. 75% насаджэнняў знаходзіцца на сухадолах.

Па ўзроставай структуры маладнякі складаюць 17%, сярэднеўзроставыя – 45,6%, прыспелыя – 28%, спелыя – 8,6%.

**Маладняк** – лес ад моманту пасадкі і прыкладна да 20 год – дакладная лічба залежыць ад пароды. Сасна за гэты час дасягае ў дыяметры сантыметраў 10-12, а ў вышыню – 6-10 метраў.

**Сярэднеўзроставы** – калі лес актыўна расце і патрабуе ўважлівага догляду за сабой. На працягу развіцця дрэвы змагаюцца паміж сабой і іншымі раслінамі за жыццёвую прастору. Прарэджваюць высечкамі, каб прыбраць слабейшыя, не даваляць станавіцца крыніцай шкоднікаў і хвароб лесу.

**Прыспелы** – лес падыходзіць да ўзросту сталасці. Драўніна становіцца больш шчыльнай і якаснай.

**Спелы** лес – драўніна дасягнула найлепшых тэхнічных якасцяў, надыходзіць час збору лясного ўраджаю. Для сасны гэта – 90-100 год (у залежнасці ад катэгорыі лясных земляў), елкі – 80 год, бярозы і асіны – 50 год.

### Чаму на Маладзечаншчыне так шмат сасны

У залежнасці ад складу і вільготнасці глебы на ёй растуць канкрэтныя дрэвы, для якіх такія ўмовы найбольш спрыяльныя. У імшыстых, сухіх тыпах лесу найлепш расце сасна. У такіх умовах сасна добра сама распаўсюджвае насенне, яно ўзыходзіць. А падчас росту не дазваляе іншым пародам развівацца ў вялікай колькасці.

Варта ўлічваць, якія дрэвы могуць суседнічаць, а якія замінаюць адно аднаму. Напрыклад, сасна і бяроза «сябруюць» і могуць расці на адной тэрыторыі. На пляцоўках, дзе больш вільготныя ўмовы і больш багатая глеба, развіваецца елка. Яна мае канкурэнтныя перавагі, можа выжыць і ў траве, і ў малінніку. У багатых умовах вакол сасны можна ўбачыць высокую траву, але тады трава заглушае дрэва, і яно можа загінуць. А вось елка вытрымлівае зацяненне, суседства іншых раслін. І хоць марудна, але расце. І з цягам часу ўжо яна падымаецца ў верхні ярус і перашкаджае развіццю іншай расліннасці.

Там, дзе забалочаныя ўчасткі, добра растуць бярозы, вольхі, асіны. Яны хутка падымаюцца і не дазваляюць развівацца іншым пародам.

Калі разглядаць лес у перспектыве, спачатку ў ім растуць хуткарослыя пароды – лісцевыя. Яны хутка саспелі, пачынаюць гніць, падаць. На гэтым месцы з'яўляецца елка, якая паступова цягнецца ўверх. У спелым яловым лесе можна глянуць угору – і вы ўбачыце, што дрэвы змыкаюцца кронамі, а ўнізе цень, і расці можа толькі мох. А пачыналася ўсё з багатага разнатраўя, маліннікі і кустоўя.

У нас такія глебы, што больш даюць магчымасці расці сасновым лясам. Калі пасадзіць адну сасну, яна з часам будзе хварэць, і ўсё насаджэнне можа загінуць. Сасну варта садзіць у сумесі з бярозай. Дуб садзяць з елкай або ліпай – яму трэба, каб штосьці было вакол, але галава была адкрыта, каб мог выцягнуцца і расці ўверх.

Для таго, каб лясная гаспадарка была паспяховая, размеркаванне дрэў кожнай з чатырох узроставых груп (маладняк, сярэднеўзроставы, прыспелы, спелы) павінна быць прыкладна пароўну. Але ў жыцці дасягнуць такога не проста. Лес расце прыкладна сто год, за гэты час паспявае адбыцца шмат падзей. Таму гэта прапорцыя ва ўсіх лясах Беларусі парушаная. Напрыклад, у 20 стагоддзі падчас і пасля войнаў дрэў высякалі больш, чым іх саспявала. Хаця гэтых прапорцый імкнуцца дасягаць.

– Часам жыхары ў сацыяльных сетках узнімаюць шум, што леснікі бязлітасна знішчаюць лес, – дзеліцца Андрэй Шыбека. – Як галоўны ляснічы я маю сваё меркаванне па гэтым пытанні. Не настолькі гэта страшна, як часам пра гэта пішуць. У звычайны перыяд часу, а не экстрэмальны, як, напрыклад, у вайну, высякаюць прыкладна аднолькавую колькасць лесу. Але ў адзін перыяд саспяваюць дрэвы, размешчаныя далёка ад вачэй жыхароў, а часам надыходзіць час спеласці тых участкаў, што знаходзяцца навідавоку.

З развіццём сучасных машын і механізмаў з'явілася магчымасць выкарыстоўваць больш ашчадныя для ляснoй экасістэмы тэхналогіі лесакарыстання, зберагаць лясную посцілку, падрост і падлесак, ахоўваць біялагічную разнастайнасць у лесе. Тым больш, што гэтыя крытэрыі – асноўныя пры штогадовым міжнародным аўдыце ляснога сертыфіката FSC, які на добраахвотнай аснове атрымаў Маладзечанскі лясгас. Гэтым пацвердзіў сваё імкненне да экалагічнага, сацыяльна і эканамічна адказнага лесакарыстання. На гэты час 100% лясоў Маладзечаншчыны FSC сертыфікаваныя.

### Як даглядаюць лес

Лясная гаспадарка суправаджае жыццё лесу ад збору насення да галоўнай высечкі і выконвае розныя кірункі працы. Лесааднаўленне – калі збіраюць насенне, вырошчваюць у гадавальніку пасадачны матэрыял. Пасля высаджваюць у лесе і даглядаюць, каб культуры не заглушыла непажаданая расліннасць.

Перыяд лесакарыстання ідзе наступным. Падчас яго праводзяць высечкі догляду, іх яшчэ называюць прарэджваннем. Ад ляснoй гаспадаркі залежыць многае – ацяпленне дровамі, драўнінная вытворчасць, будаўніцтва. Таму і высечкі праводзяць такім чынам, каб больш драўніны накіраваць на гаспадарчыя патрэбы.

Высечкі могуць быць таксама для праходу, або санітарныя. Гэта яшчэ адзін кірунак – абарона лесу ад хвароб і шкоднікаў.

Яшчэ адно важнае пытанне – ахова лесу ад пажараў. Чым больш сухі і малады лес, тым большая рызыка наступстваў пажару ў ім. У засушлівае і ветранае надвор'е знішчаюцца вялікія плошчы. Сярэдні бал пажарнай небяспечнасці ў маладзечанскіх лясах параўнальна высокі, таму і пажары ўзнікаюць даволі часта. Але плошча іх невялікая, таму што наладжаная сістэма відэаназірання дазваляе своечасова рэагаваць на выпадкі ўзгаранняў.

Сэнс любой дзейнасці – атрымаць вынік. Сэнс ляснoй гаспадаркі – задаволіць і экалагічныя патрэбы, і гаспадарчыя. Спелую драўніну выкарыстоўваюць у прамысловасці. Традыцыйна беларусы прыходзілі ў лес, каб браць яго ўраджай і выкарыстоўваць у сваёй дзейнасці.

Высякаць дрэвы трэба такім чынам, каб на гэтым участку праз сем гадоў была пакрытая лесам плошча. Таму неабходна вылічыць, колькі падсадзіць, які стан пляцоўкі – трэба пра многае падумаць, каб пасля атрымаць той вынік, які патрэбны, і пакінуць запас на будучыню.

### У чым перавага сасны

Сасна належыць да хвойных парод, хутка расце. Хвойныя пароды больш устойлівыя да знешніх уздзеянняў. З-за таго, што дрэва трывалае, на ім складана зрабіць скол. Раўнамерна смалістае, дзякуючы гэтаму можа доўга захоўвацца.

Традыцыйна зрубы для дома рабілі пераважна з сасны – калі высыхае, дрэва менш трэскаецца, з-за смалістых уласцівасцяў такія дамы стаяць стагоддзямі. У даўніну прамысловасць была ўладкаваная пад сасну. Менавіта яна найбольш распаўсюджаная на нашых землях, таму стагоддзямі назапашвалі досвед, каб з сасны вырабляць рэчы для самых розных мэт.

Бярозу продкі бралі на дровы, бо ў яе добрая цеплаёмістасць. З маладой елкі рабілі розныя прылады, напрыклад, аглоблі – яны трывалыя і лёгкія, калі высыхаюць.

Часам у лесе можна знайсці векавыя дубы. Яны трапляюцца не часта – звычайна іх садзілі, каб пазначаць месцы межаў паміж гаспадарамі або рознымі тэрыторыямі.

Адно з цікавых месцаў на Маладзечаншчыне – Верадоўскі дэндрапарк. Раней там была забалочаная тэрыторыя, расцякалася Уша. Пасля месца асушылі і пачалі засаджваць. Цяпер там расце каля 50 відаў дрэў і кустоў. Гэта добрае месца для прагулак і фотасесій. Галоўны ляснічы падказаў і іншыя месцы. Бераг Віліі – там спелы лес, уздоўж берага шмат раслін, якія ўнесеныя ў Чырвоную кнігу. Прыгожае месца на мяжы раёнаў, каля Лоска, паміж Валожынскім і Смаргонскім раёнамі – часам там аблокі зачэпліваюць верхавіны елак.

# ПРЫВАТНЫЯ АБ'ЯВЫ

Транспарт • Нерухомасць • Паслугі • Праца • Рознае

* Аб'явы, пазначаныя зорачкай, змешчаныя ў інтэрнэце на сайце Rh.by

**Дзе падаць аб'яву**

МАЛАДЗЕЧНА — Вялікі Гасцінец, 143, офіс 518. Тэл. 8 (0176) **53-78-04**, 8 (029) **676-84-20.**
АСТРАВЕЦ — вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі №1. Тэл. 8 (01591) **2-11-40.**
АШМЯНЫ — вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. 8 (01593) **7-56-17.**
ВАЛОЖЫН — вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. 8 (01772) **6-13-85.**
ВІЛЕЙКА — вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. 8 (01771) **2-00-83, 2-01-03.**
вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. 8 (01771) **5-52-33, 5-55-39.**
МЯДЗЕЛ — вул. 17 Верасня, 2. Тэл. 8 (01797) **2-49-65, 2-49-70.**
СМАРГОНЬ — вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. 8 (01592) **4-47-16.**

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Мазда-323, 1991 г.в., на хаду, можна на запчасткі. Т. (8-033) 6382159, (8-0176) 541322.*

• Мазда-626 GF, 1998 г.в., хэтчбэк, па запчастках. Ёсць амаль усё, добры рухавік. Т. (8-025) 6240203.*

• Мерсэдэс, 1995 г.в., добры стан. Нядорага. Т. (8-029) 5612477 (МТС).

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО**: крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак, глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, (8-0176) 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-044) 4886067.***

• Аўтамабіль аварыйны альбо з праблемамі. Эвакуатар бясплатна. Т. (8-029) 9085343.*

• Аўто 1,0 – 5,0 л у любым стане. Тэрмінова! (срочно). Т. (8-029) 7088846.*

• Аўто. Можна аварыйнае. Дорага! Т. (8-029) 5677052.*

• Іншамарку ў любым стане, можна не на хаду. Забяру сам. Т. (8-029) 5377786.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-033) 3631161, (8-029) 1236722.*

• Любое аўто на хаду для сябе з пераафармленнем. Грошы адразу. Т. (8-029) 6510099, (8-029) 7555455.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Міру, 5/5, 1988 г.п., 61,3 кв.м (панэльны дом). Т. (8-029) 7680884.*

• Дача ў с/т «Магістраль», мядзельскі напрамак, раён в. Лазовец, рублены дом. Т. А1 (8-029) 6243966.*

• Дом у в. Беніца Маладзечанскага раёна, 0,25 га, гараж з ямай, гаспадарчыя пабудовы, сад. Т. (8-029) 8553487 МТС. *

• Дом у в. Слабодка Маладзечанскага раёна, 0,17 га, гараж, лазня, гаспадарчыя пабудовы. Т. (8-029) 7517853 МТС, (8-044) 7533213.*

• Дом у Вілейцы па вул. Стаханаўскай. Газавае ацяпленне, падведзеная халодная вада, гараж, склеп, 15 сотак альбо абмяняю на 1-пакаёвую кватэру ў Вілейцы, Маладзечне. Т. (8-029) 8729001 (МТС).

• Дом у Маладзечне па вул. Усходняй. Т. (8-029) 8531242.*

• Кватэра ў новабудоўлі Маладзечна. Т. (8-029) 9439184.*

• Участак у в. Чыжэвічы Вілейскага раёна, 15 сотак, вул. Чыжэвіцкая, 9-б. 500 м ад Вілейскага вадасховішча. Побач лес. Па вуліцы праведзены прыродны газ. Т. (8-029) 6686477.*

### ЗДАМ

• Майстэрню для рамонту аўтамабіляў з абсталяваннем, 90 кв.м. Т. МТС (8-029) 1110707.*

• Памяшканне ў цэнтры Маладзечна, 32 кв.м. Т. (8-029) 5551515.*

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Жывая музыка. Тамада. Разумныя цэны. Т. (8-033) 3400865.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Грузаперавозкі да 2 т. ІП Ковель М.Б. УНП 690690062 Т. (8-029) 7647716.*

## ПАСЛУГІ

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• **СПІЛУЕМ ДРЭВЫ**. ІП Мамай У.А. УНП 692014435 Т. МТС (8-029) 8886923.*

• Бурэнне свідравін (скважин) на ваду. ІП Субат П.І. УНП 692010733. Т. (8-029) 8331245.

• Бухгалтарскі ўлік. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• Выраб розных металавырабаў, варот, брамак, агароджаў з сеткі і прафнасціла, навесы і г.д. Замер, дастаўка, устаноўка. ІП Мазалеўскі М.В. УНП 691514343. Т. (8-029) 5081330.*

• Дах пад ключ. Мантаж новага, замена старога. Матэрыялы. Дастаўка. Гарантыя. ІП Капцюг Р.П. УНП 692252550. Т. (8-029) 5580884,(8-029) 9382802.*

• Кладка, дах, фундамент. ІП Яновіч Ч.А. УНП 600163826 Т. (8-029) 5024571.*

• Рамонт тэлевізараў і падсветкі ЖК-тэлевізара. Гарантыя да 1 года. ІП Зелянко У.М. УНП 690040614. Т. МТС (8-029) 2710273, А (8-044) 5559347, (8-0176) 546298.*

• Рамонт халадзільнікаў у Вілейцы. Выезд дадому. Гарантыя. ІП Буцер А. УНП 690259548. Т. (8-029) 5024691.*

• **САНТЭХНІЧНЫЯ РАБОТЫ** любой складанасці. ІП Калганаў А.Г. УНП 691290808 Т. (8-029) 8726800.*

• Свідраванне (сверление) адтулін (отверстий) у бетоне, цэгле, камені пад каналізацыю, водаправод, вентыляцыю. ІП Варывончык В.А. УНП 692245096 Т. (8-029) 7088846.*

• **СПІЛУЕМ ДРЭВА.** Растэрміноўка. Скідкі. Акцыі. ІП Былінскі В.М. УНП 690475812. Т. (8-029) 5755757, (8-029) 3493379.*

• Усё для даху і агароджы. Маладзечна, вул. Л.-Роменская, 153-а. ІП Барчан П.І. УНП 692017128. Т. (8-0176) 580400, (8-029) 2345641.*

## РОЗНАЕ

### ПРАДАЕЦЦА

**Камп'ютары, TV, сродкі сувязі**



**Мэбля**

• Кухня, стол кухонны фірмы «Явід», тэлевізійная зона, дзіцячая мэбля, 2-ярусны драўляны ложак з матрацамі. Т. (8-029) 6447250.*

**Іншае**

• Дзіцячыя вароты бяспекі для лесвіц і дзвярэй (50 руб.), ровар для двойні або пагодак (40 руб.). Маладзечна. Т. (8-033) 3668181.*

• Інвалідная каляска для дарослага. Г. Вілейка. Т. (8-025) 7561796.*

• Сена. Т. (8-029) 6870898.*

### КУПЛЮ

**Будматэрыялы, сантэхніку**

• Арматуру, профільную трубу, вугалок, дошку, брус, кроквы. Т. МТС (8-029) 1110707.*

**Бытавую тэхніку**

• Няспраўныя плазменныя і LCD тэлевізары. Т. (8-029) 5634740.*

**Жывёла, птушка, пчолы**

• Раі, пчол. Т. (8-029) 8742957.*

**Іншае**

• 4-ы том Беларускай энцыклапедыі, выдав. «Беларуская Энцыклапедыя» імя Петруся Броўкі, 1996. Т. (8-029) 6550799.*

## ПРАЦА

### ПАТРАБУЕЦЦА

• Слесар-кузаўшчык для рамонту аўтамабіляў. Майстэрня ёсць. Т. МТС (8-029) 1110707.*

• Сядзелка. Маладзечна. Т. (8-029) 7664915.*

### ШУКАЮ РАБОТУ

• Шукаю работу па рамонце халадзільнікаў, маразільнікаў. Запраўка фрэонам. Т. (8-029) 3395974.*

• Шукаю работу печніка па кладцы печаў і камінаў. Т. (8-025) 6386264 (Лайф).



Рэклама ў «РГ»
8 (0176) **53-78-04**
**reklama@rh.by**



Фота Аксаны ЯРАШОНАК.

У Вілейцы падчас прэзентацыі гурткоў для дзяцей у Цэнтры дадатковай адукацыі дзяцей і моладзі.

# Вілейка падтрымала ініцыятыву «Горад, дружалюбны дзецям і падлеткам»

**1 чэрвеня Міністэрства адукацыі Беларусі, Вілейскі раённы выканаўчы камітэт і Дзіцячы фонд ААН «ЮНІСЕФ» у рамках падтрымання ініцыятывы «Горад, дружалюбны дзецям і падлеткам» падпісалі пагадненне аб супрацоўніцтве, паведамляюць у Вілейскім райвыканкаме.**

Горад, дружалюбны дзецям, – гэта міжнародная ініцыятыва Дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЕФ), якая заклікае ўлады рэалізоўваць правы дзіцяці ў кожным горадзе.

Ініцыятыву абвясцілі ў 1996 годзе ў Стамбуле ў адказ на рэзалюцыю ААН па населеных пунктах, у якой гаварылася, што дабрабыт дзяцей з'яўляецца асноўным паказчыкам дабрабыту грамадства. Ініцыятыву падтрымала ЮНІСЕФ і пачала актыўна развівацца ад 1998 года. Цяпер яна рэалізуецца ў больш чым 900 гарадах свету, уключаючы Лондан, Мюнхен, Буэнас-Айрэс, Маскву, Санкт-Пецярбург, Вільню і іншыя.

У 2007 годзе ў Беларусі пачалі праект па рэалізацыі гэтай міжнароднай ініцыятывы. Каардынатарамі сталі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь і Прадстаўніцтва Дзіцячага фонду ААН (ЮНІСЕФ) у Беларусі.

1 чэрвеня Вілейка далучылася да платформы «Горад, дружалюбны дзецям і падлеткам», а значыць, будзе спрыяць паляпшэнню жыцця дзяцей і забяспечваць выкананне іх правоў. Адзін з прыярытэтных напрамкаў дзейнасці ў рамках ініцыятывы – развіццё інклюзіўнай адукацыі.

**Аддзел інфармацыі.**

# Падатковая інспекцыя паведамляе пра новы сэрвіс

**Падатковая інспекцыя паведамляе, што ў электронным сэрвісе асабістага кабінета з'явіўся новы электронны сэрвіс «Звесткі аб транспартных сродках».**

У ім утрымліваецца інфармацыя пра марку, мадэль, тып, год выпуску, рэгістрацыйны знак, дату пастаноўкі на ўлік у ДАІ МУС, дату зняцця з уліку ў ДАІ МУС транспартных сродкаў, зарэгістраваных за грамадзянінам. Пры гэтым звесткі адлюстраваныя ў дачыненні да транспартных сродкаў, выпушчаных пачынаючы ад 1992 года і зарэгістраваных за фізічнай асобай у ДАІ МУС па стане на 1 студзеня 2021 года.

Калі плацельшчык заўважыў у сваім асабістым кабінеце неадпаведнасць або адсутнасць звестак пра транспартныя сродкі, то для ўдакладнення інфармацыі неабходна звяртацца ў рэгістрацыйнае падраздзяленне ДАІ МУС.

Увайсці ў асабісты кабінет можна з дапамогай індывідуальнага логіна і пароля, якія прысвойваюць падатковыя органы. За рэгістрацыяй у асабісты кабінет можна звярнуцца ў любую бліжэйшую падатковую інспекцыю незалежна ад месца пражывання або рэгістрацыі ў якасці плацельшчыка. З сабой трэба мець толькі пашпарт.

**Інспекцыя Міністэрства па падатках і зборах па Маладзечанскім раёне.**



**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёна:**

| | |
|---|---|
| Астравец | -01591 |
| Ашмяны | -01593 |
| Валожын | -01772 |
| Вілейка | -01771 |
| Маладзечна | -0176 |
| Мядзел | -01797 |
| Смаргонь | -01592 |

# Першакласнікі зладзілі «Музей у чамадане»

## Яны знайшлі старыя рэчы і даведаліся іх гісторыю

МАЛАДЗЕЧНА

**У 1 «В» класе сярэдняй школы №8 у Маладзечне правялі конкурс «Музей у чамадане». Дзеці адшукалі старыя рэчы, даведаліся іх гісторыі, якія прапануюць чытачам.**

### Вышыўка крыжыкам «Царэўна-жаба» на льняной тканіне

Карціну на сюжэт народнай казкі «Царэўна-жаба» вышывала мая прабабуля **Галіна Андрэеўна Жаўняровіч** у 1958 годзе ў мястэчку Радашкавічы. Тата расказаў мне, што гэту карціну прабабуля вышывала, калі калыхала маленькіх дзяцей у старадаўняй калысцы, падвешанай да столі.

У калысцы спаў мой дзядуля **Пётр Пятровіч Жаўняровіч**, які і нарадзіўся ў 1958 годзе. Тады дастаць ніткі мулінэ было складана. Але прабабуля так любіла вышываць, што заўсёды знаходзіла час і магчымасці. Яе старэйшы сын ездзіў на рынак прадаваць малочныя прадукты, якія прабабуля рабіла сама з малака ад сваёй каровы. На выручаныя грошы купляў дарагія па тых часах рознакаляровыя ніткі. Прабабуля вышывала шмат малюнкаў на тканіне – выявы кветак, птушак.

Прабабуліным дзецям – траім сынам – засталося шмат яе вышытых работ: навалачак на падушкі з узорамі, пакрывалаў, ручнікоў, абрусаў, кашуль. Ад прабабулі маёй бабулі **Галіне Вітальеўне Жаўняровіч** засталася толькі гэта карціна. Яна вышытая на льняной канве з раўнамерным перапляценнем нітак. Вышываць па такой канве цяжка, бо яна шчыльная і не мае дзірачак. Цяпер гэту карціну бабуля перадала маім бацькам і мне.

Сказала: «Перадаю Івану царэвіча-Івана!» У сваёй сям'і мы шануем гэту старую рэч. Яна ўпрыгожвае наша лецішча ў вёсцы Падлесная Маладзечанскага раёна.

### Ступка для спецый

Гэты прадмет, знешне падобны да вядзерца, – маленькая ступка. Разам з ёй – двухбаковы таўкач, або таўкушка, як называлі яго мае прабабуля, бабуля і мама. Настольная ступка даволі цяжкая, жаўтавата-карычневая, зробленая з латуні. На ніжняй частцы ступкі на метале выбітая гравіроўка даты яе выпуску – 1910 год. Адкуль яна з'явілася ў нашай сям'і, ужо ніхто і не памятае. Ёй карысталася мая прабабуля **Яўгенія Генрыхаўна Гайковіч** у 1930-70-х гадах у вёсцы Укропава Маладзечанскага раёна. Затым ступка дасталася яе дачцэ, маёй бабулі **Галіне Вітальеўне Жаўняровіч**, затым – майму тату, які ажаніўся з маёй мамай.

Тата расказаў: яму казала яго мама (мая бабуля), што ў гэтай ступе таўклі «хрэн да кілбасы», кмен і розныя прыправы. Асабліва ёй карысталіся ў калядны пост. Да Калядаў вясковыя жыхары імкнуліся «падгадаваць свіней», каб потым са свініны рабіць дома духмяную кілбасу з прыправамі. Менавіта ад прыправ залежаў смак зробленай уручную кілбасы.

Цяпер ступкай карыстаюцца бабуля і мама. Асабліва яна патрэбная, калі ў вёсцы Укропава ў маёй бабулі мы робім кілбаскі са свініны, працягваючы традыцыю прабабулі. Мама кажа, што такія духмяныя спецыі, якія перамолваюцца ў гэтай ступцы, не купіш у краме. Круглы перац гарошкам мама спачатку таўчэ, а затым расцірае. Таксама расцірае сушаныя грыбы, зёлкі, прыправы, мак або кававае зерне. Заварная кава атрымліваецца духмянай і смачнай. Старадаўняя ступка – гонар нашай сям'і.

**Іван ЖАЎНЯРОВІЧ.**




Фота забяспечанае Анастасіяй СЯЛЯЎКАЙ.

**Злева направа: настаўніца Анастасія Генадзьеўна Сяляўка і вучні 1 «В» класа Мацвей Зямцоў, Іван Жаўняровіч і Крысціна Цодава са сваім «Музеем у чамадане».**

### Прас на вуголлях

Гэты старадаўні прас дастаўся нам ад маёй прабабулі **Марыі Іосіфаўны Каляды**, якая нарадзілася ў 1942 годзе ў вёсцы Сугвазды Валожынскага раёна і пражыла там да 2012 года. А яна атрымала прас ад мачахі **Клаўдзіі Францаўны Каляды**, якая яшчэ ў 1929 годзе купіла яго ў заезджых у вёску цыганоў. Прабабуля перадала прас сваёй унучцы, маёй маме **Святлане Аляксандраўне Зямцовай**, і распавяла гісторыю пра тое, як калісьці даўно карысталася гэтым прасам.

Такія жалезныя прасы з жарам унутры з'явіліся даўно. Прас падобны да невялікай печкі: унутр корпуса прабабуля закладвала распаленае бярозавае вуголле. Для лепшай цягі па баках рабілі адтуліны, каб лепш гарэла. Яшчэ ў праса ёсць труба. Відаць, таксама для лепшага гарэння. Каб зноў распаліць астылыя вуглі, у адтуліны дзьмулі або размахвалі прасам з боку ў бок.

> **Мама кажа, прасаваць было цяжка, але такая канструкцыя была неабходная для прасавання кашуль з натуральнай ільняной тканіны.**

Таксама мама казала, што такі прас раней лічыўся прыкметай дабрабыту ў сям'і. Прабабуля ганарылася, што ў яе быў прас. Пазней такія з'явіліся ў многіх дамах. Цяпер у нашай сям'і мы не карыстаемся гэтым прасам. Хоць, разагрэўшы ў печы вуголле, ім можна прасаваць адзежу, калі няма электрычнасці. Прас з'яўляецца для нас проста памятнай рэччу. Гледзячы на яго, мы ўспамінаем усю гісторыю ўзнікнення і развіцця прасаў ад суцэльналітага чыгуннага да вугальнага, газавага, спіртавога і электрычнага.

**Мацвей ЗЯМЦОЎ.**

### Газавая лямпа Feuer Hand superbaby №175

Яшчэ дашкольніцай, прыкладна два гады таму, на лецішчы ў вёсцы Заазер'е Вілейскага раёна мы з татам знайшлі некалькі старадаўніх рэчаў, якія зацікавілі нас. А на гарышчы дома, які пабудаваў яшчэ мой прадзед, мне спадабалася старая нямецкая газавая лямпа, досыць лёгкая па вазе, з ручкай. Я падумала тады, чаму б не забраць яе з сабой у горад?

Сёлета, стаўшы школьніцай, пасля ўрока рускай літаратуры, дзе мы чыталі, як з'явіўся алфавіт, кніга і пра тое, як вучыліся грамаце даўней, я ўзгадала гэту рэч. Магчыма, старая лямпа дапамагала камусьці чытаць.

Адшукаўшы яе дома ў скрыньцы, я задумалася: колькі ж гадоў гэтай рэчы, хто ёй карыстаўся. Вырашыла больш даведацца пра лямпу і паўдзельнічаць у конкурсе «Музей у чамадане».

Нямецкая газавая лямпа называецца Feuer Hand superbaby №175, што ў перакладзе з нямецкай азначае «вогненная рука». Гэта свяцільнік з ацынкаванага металу, працуе на газе. Лямпа дасталася мне ад майго прадзеда **Мікалая Дзмітрыевіча Дуровіча**, які нарадзіўся ў 1900 годзе і жыў у Заазер'і. Прадзядуля быў дзядулем майго таты і распавёў яму гісторыю з'яўлення гэтай лямпы ў сям'і яшчэ 30 гадоў таму, калі тата быў маленькі. Затым тата расказаў мне.

У час Другой сусветнай вайны каля вёскі Заазер'е (яе яшчэ называюць Завозеры) праходзілі нямецкія салдаты. Пасля сутычкі з партызанамі, якія жылі ў лясах побач з вёскай, немцы практычна цалкам спалілі вёску. Мая прабабуля з дзецьмі жылі ў ацалелай адрыне са свойскай жывёлай. Мабыць, тады немцы згубілі лямпу ў вёсцы і яна з'явілася ў нашай сям'і. Служыла прабабулі і ў пасляваенны час, пакуль у вёсцы не з'явілася электрычнасць. Прадзядуля памёр у 1946 годзе, адбудаваўшы дом недалёка ад згарэлага. Лямпа засталася маім бабулі і дзядулі, а затым і майму тату як памяць пра цяжкія ваенныя часы.

**Крысціна ЦОДАВА.**

## Беларусь 1

**6.00, 21.55** Х/ф **«БОЛЬШОЙ АРТИСТ».**

**8.00** Існасць [СТ].

**8.30** Смысл жизни.

**9.00, 12.00, 15.00** Новости.

**9.10** «Доброе утро, Беларусь!» со Светланой Боровской».

**9.55** Здоровье [СТ].

**10.45** Дача.

**11.20** «Повод есть».

**12.10** Х/ф **«ОПЯТЬ ЗАМУЖ».**

**14.10** Женщины и спорт.

**15.10** Краіна.

**15.40** Истории спасения.

**16.15, 19.25** Х/ф **«ТАКСИСТКА».**

**19.00** «Вопрос номер один».

**21.00** Панорама.

**21.40** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПОБЕДЫ».**

**2.15** День спорта.

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 18.00** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**9.55** Анимация для всей семьи «Рапунцель: Запутанная история».

**11.30** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**12.20** «Камень, ножницы, бумага».

**12.55** «На неделю».

**13.40** «Короли палат». Скетчком.

**14.10** «Битва экстрасенсов». Реалити-шоу.

**16.00** Теннис. Ролан Гаррос. Женщины. Финал.

**18.05** Х/ф **«ОДНАЖДЫ В РИМЕ».**

**19.40, 21.15** Х/ф **«ОДИНОКИЙ РЕЙНДЖЕР».**

**21.10** Спортлото 6 из 49, КЕНО.

**22.40** Х/ф **«ЛЕДИ В ФУРГОНЕ».**

## Беларусь 3

**7.35** «Лев и заяц». Мультфільм.

**7.45** «Сіла веры».

**8.10, 14.15** Навіны культуры.

**8.30** «Дайце кнігу скаргаў «. Мастацкі фільм.

**10.00** «Жывая спадчына».

**10.25** «Беларуская кухня». Балабешкі.

**10.55** «Я хачу гэта ўбачыць!».

**11.25** «Прыгоды Бураціна». Мастацкі фільм [СТ].

**13.50** «Навукаманія».

**14.35** «Я песен не считаю… Ігар Лучанок». Дакументальны фільм.

**15.30 Т/ф «ПАЎЛІНКА».**

**16.55, 21.00** Спецыяльны «Культурны рэпартаж».

**17.20** Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2021». Урачыстае адкрыццё.

**19.00** «34-ы хуткі». Мастацкі фільм [СТ].

**20.25** «Суразмоўцы». Аўтарскі праект пісьменніка Навума Гальпяровіча. Госць – журналіст, пісьменнік Валерый Гапееў.

**20.40** «Калыханка».

**21.30** Нацыянальны фестываль беларускай песні і паэзіі «Маладзечна-2021». Урачыстае закрыццё.

**23.00** «Дзяўчына без адрасу» Мастацкі фільм.

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00, 20.00** Наши новости.

**7.10** ОНТ представляет: «Марков. Ничего личного».

**8.00, 9.10** ОНТ представляет: «Наше утро в субботу».

**10.00** ОНТ представляет: «Тревожная кнопка».

**10.25** Х/ф **«МУЖИКИ!...».**

**12.20** «Видели видео?».

**13.10** Х/ф **«ЭКИПАЖ».**

**16.20** «Кто хочет стать миллионером?» с Дмитрием Дибровым.

**17.55** Премьера. «Этот мир придуман не нами». Концерт великого композитора Александра Зацепина.

**20.45** ОНТ представляет: «Метеогид».

**21.05** «Клуб Весёлых и Находчивых». Высшая лига.

**23.20** Концерт Леонида Агутина.

## СТВ

**6.35** «Пища богов».

**8.15** «Анфас».

**8.35** «Самая полезная программа».

**9.35** «О вкусной и здоровой пище».

**10.00** «Минск и минчане».

**10.30** «Центральный регион».

**11.00** «Неизвестная история».

**12.00, 13.40, 16.40** Т/с **«ГЛУХАРЬ».**

**13.30, 16.30, 19.30** Новости «24 часа».

**20.20** «СТВ-спорт».

**20.30** Документальный спецпроект.

**22.45** «Территория заблуждений».

**0.15** «Великие тайны».

## Мир

**5.00, 6.15** Мультфильмы.

**6.00** «Всё, как у людей».

**8.25** Д/ф «НЕЗАВИСИМОСТЬ. МИССИЯ ВЫПОЛНИМА».

**9.00** Ток-шоу «Слабое звено».

**10.00** Погода в Мире.

**10.10, 16.15, 19.15** Т/с **«КРАСНАЯ КОРОЛЕВА».**

**16.00, 19.00** Новости.

**0.40** Х/ф **«ДЕЖА ВЮ».**

**2.30** Х/ф **«АЛЕКСАНДР НЕВСКИЙ».**

**4.20** Т/с **«ПЕТР ПЕРВЫЙ. ЗАВЕЩАНИЕ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.05, 6.55** Сегодня. Главное.

**6.20** «Дача».

**7.10** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «ЧП.by: Время итогов».

**8.45** Один день.

**9.20** «Врачебные тайны плюс».

**10.20** Сломать стереотипы.

**10.40** Главная дорога.

**11.15** «Живая еда с Сергеем Малозёмовым».

**12.00** Квартирный вопрос.

**13.00** Истории спасения.

**13.30** «Поедем, поедим!».

**14.10** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА».**

**15.20, 16.20** «Следствие вели…».

**17.10** «Секрет на миллион».

**19.00** «Центральное телевидение» с Вадимом Такменевым.

**19.55** Х/ф **«БЕГЛЕЦ».**

**21.55** Х/ф **«СПИРАЛЬ».**

**23.50** «По следу монстра».

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Новое Утро».

**9.30** «Формула еды».

**9.55** «Тайны Беларуси».

**11.00, 20.00** ВЕСТИ.

**11.20** «Сто к одному».

**12.10** Х/ф **«УКРОТИТЕЛЬНИЦА ТИГРОВ».**

**14.10** ПРЕМЬЕРА. «Юмор! Юмор! Юмор!!!». Праздничный выпуск.

**16.10** Х/ф **«НИ К СЕЛУ, НИ К ГОРОДУ…».**

**19.45** «Плюс-минус».

**21.35** Большой праздничный концерт, посвященный Дню России.

**23.30** Х/ф **«ЛЕГЕНДА О КОЛОВРАТЕ».**

## кіно і спорт

### TV1000

**5.35, 2.55** Робин Гуд: Принц воров. **8.25** Помпеи. **10.10, 0.40** Робин Гуд. **12.35** Сумерки. **14.35** Сумерки. Сага. Новолуние. **16.50** Сумерки. Сага. Затмение. **19.00** Сумерки. Сага. Рассвет: 1 ч. **20.55** Сумерки. Сага. Рассвет: 2 ч. **22.50** История одного вампира.

### TV1000 ACTION

**5.10** Уличный боец. **7.15** Кровный отец. **8.55** Большой куш. **10.40** Мачете. **12.25** Мачете убивает. **14.15** Криминальное чтиво. **16.55** Ларго Винч 2: Заговор в Бирме. **19.00** Вспомнить всё. **20.55** Особое мнение. **23.15** 12 обезьян. **1.30** Железный кулак. **3.00** Большой переполох в маленьком Китае.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**6.20** Человек из будущего. **7.30** Час пик. **9.25** Сёстры. **10.55** Брат. **12.40** Брат 2. **15.00, 15.55, 16.55, 17.50, 18.45, 19.40, 20.45, 21.40** Шерлок в России. **22.40** Побег. **0.45** Гости. **2.05** ПираМММида. **3.50** Отрыв.

### ТВ3

**6.00** Мультфильмы. **9.00** «Рисуем сказки». **9.30, 10.00, 10.30, 11.00, 11.30, 12.00, 12.30, 13.00, 13.30, 14.00, 14.30, 15.00, 15.30, 16.00, 16.30, 17.00, 17.30, 18.00, 18.30, 19.00, 19.30, 20.00, 20.30, 21.00, 21.30** «Слепая». **22.00** Х/ф **«РАЙСКИЕ ХОЛМЫ». 0.00** Х/ф **«КОД 8». 1.45** «Мистические истории». **4.00, 4.45, 5.30** «Тайные знаки».

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«САКВОЯЖ СО СВЕТЛЫМ БУДУЩИМ». 12.00, 20.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ЛАСТОЧКИНО ГНЕЗДО». 14.00, 22.00, 6.00** Т/с **«УЛЫБКА ПЕРЕСМЕШНИКА». 15.00, 23.00, 7.00** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 0.00, 1.00, 2.00, 3.00** Т/с **«ПЯТЬ ШАГОВ ПО ОБЛАКАМ». 4.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ 2».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**0.35** Х/ф **«ДОСТАТЬ КОРОТЫШКУ». 3.20** Х/ф **«ВОРЧУН». 5.15** Х/ф **«ЧЕЛОВЕК, КОТОРЫЙ СЛИШКОМ МАЛО ЗНАЛ». 7.00, 19.30** Х/ф **«БОБРО ПОРЖАЛОВАТЬ». 9.05** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ». 11.00** Х/ф **«ТЕЛОХРАНИТЕЛЬ КИЛЛЕРА». 13.10** Х/ф **«ОТЛИЧНИЦА ЛЕГКОГО ПОВЕДЕНИЯ». 14.50** Х/ф **«ДОМ С ПАРАНОРМАЛЬНЫМИ ЯВЛЕНИЯМИ». 16.25** Х/ф **«ДОМ С ПАРАНОРМАЛЬНЫМИ ЯВЛЕНИЯМИ 2». 18.00** Х/ф **«ЖИВОТНОЕ». 21.35** Х/ф **«ОКЕЙ, ЛЕКСИ!». 23.05** Х/ф **«ТУПОЙ И ЕЩЕ ТУПЕЕ 2».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.25, 1.25, 2.20, 3.15, 4.05, 5.05, 6.00, 7.00, 8.00, 8.55** Т/с **«ВЕЛИКАЯ». 9.55** Т/с **«ПАРОЛЬ «РЫБА-МЕЧ». 11.45, 12.40, 13.40, 14.35, 15.30, 16.25, 17.20, 18.15, 19.15, 20.10, 21.00, 22.00** Т/с **«АНАТОМИЯ УБИЙСТВА». 22.55, 23.50** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25, 15.05** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00** «ПРОСТО КУХНЯ». **11.00, 1.55** Шоу «ДЕЛО БЫЛО ВЕЧЕРОМ». **12.00** Т/с **«ПОГНАЛИ». 13.35, 21.00** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **15.45** Х/ф **«ЭЛАСТИКО». 17.25** Х/ф **«ТРУДНОСТИ ВЫЖИВАНИЯ». 19.10** Х/ф **«ANGRY BIRDS В КИНО». 22.35** Х/ф **«НЕЖДАННЫЙ ПРИНЦ». 0.20** Ужасы «СЛАМБЕР: ЛАБИРИНТЫ СНА». **2.50** Т/с **«ПАПИНЫ ДОЧКИ». 4.00** Скетч-шоу «ДАЁШЬ МОЛОДЁЖЬ». **4.50** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.35** Теннис. Ролан Гаррос. Мужчины. 1/2 финала. **9.10** Большой спорт. **9.55, 13.50, 17.45, 20.45** Художественная гимнастика. Чемпионат Европы. Финал. **12.25** Мини-футбол. Чемпионат Беларуси. 1/2 финала. Пятый матч. **15.45** Спорт-центр. **18.45** Футбол. Чемпионат Европы. Дания – Финляндия. В перерыве Спорт-центр. **21.45** Футбол. Чемпионат Европы. Бельгия – Россия. В перерыве Спорт-центр. **23.55** Гандбол. Лига Чемпионов. Мужчины Финал 4-х. 1/2 финала. Барселона (Испания) – Нант (Франция).

### EUROSPORT

**0.00, 5.00, 9.30** Велоспорт. «Тур Бельгии». Третий этап. **1.00** Сёрфинг. «Дорога в Токио». **2.30, 6.00, 7.30, 10.30, 12.00, 20.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. Полуфинал. **4.00, 8.30** Велоспорт. «Тур Словении». Третий этап. **13.00** Гребной слалом. Кубок мира. Прага. **14.15** Теннис. «Ролан Гаррос». Женщины. Полуфинал. **15.30, 21.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Женщины. Финал. **18.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. Пары. Финал. **23.00** Велоспорт. «Тур Словении». Четвертый этап.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Авто. Вторые руки. **6.30, 9.20, 11.30, 15.45, 19.05, 21.30, 0.05, 3.05** Итоговые новости. **6.40, 1.20, 3.20** Супергрузовики. **8.20, 4.35** Советы для каждого. **8.50, 10.10** Возвращение легенды. **9.40** Испытание на прочность. **10.40** Всё включено. **10.55, 19.25, 22.50** Автомобильные музеи мира. **11.45, 14.50, 17.55** «Здесь был «Драйв». **12.45, 14.35, 17.40** Автолайф. **13.00, 16.00** Это Родина твоя. **14.00** Комплектация. **18.50, 22.35** Наезд! **19.55, 23.25** Тест с дядей Ваней. **20.40** Теория полного привода. **21.15, 5.00** Эконом-тест. **21.50, 5.20** Советы юриста. **0.25** Байки про байки. **1.05** Мото тест-драйв. **2.05** Тест на «Драйве». **4.05** Сити тестер.

### EXPLORE

**6.15** Гараж: Последний приют. **6.40, 7.30, 8.15** Переделка старья. **9.05, 9.55, 10.45, 11.35, 12.25, 13.10, 14.00** Ржавые тачки на прокачку. **14.50, 15.40, 16.25, 17.10, 0.30, 1.20, 2.05, 2.50, 3.40, 4.25, 5.15** Австралийские золотоискатели. **18.00, 20.25, 22.00, 22.50** Речные чудовища. **18.50** Винтажные электромобили. **19.35** Снос в Австралии. **21.15** Бирюзовая лихорадка. **23.45** Ледовые викинги.

### HISTORY

**6.05** Невероятные изобретения. **6.30, 7.15, 8.05, 15.10, 15.55** Музейные тайны. **8.50, 2.55, 3.45, 4.35** Очень странные экспонаты. **9.40, 10.25, 11.10, 1.20, 2.10** Тайны музеев. **12.00** Вена: империя, династия и мечта. **12.55, 23.45, 0.35** Великая эпидемия чумы в Лондоне. **13.40, 14.25** Расшифровка тайн. **16.40, 17.30** Расшифрованные сокровища. **18.20, 19.15** Последние часы Помпеев: новые загадки. **20.10** Салемские ведьмы. **21.00** Древние небеса. **21.55** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **22.45** Операция «Золотая лихорадка». **5.20** Родовые проклятья.

### NATURE

**6.05, 6.55, 7.40, 8.25, 9.15, 10.00, 10.45, 11.35, 12.20, 19.00, 19.45, 20.35** Ветеринар из Йоркшира. **13.05** Нераскрытое дело динозавра. **13.55** Расцвет млекопитающих. **14.50** Вскрытие мамонта. **15.40, 16.25** Спасти акулу! **17.15** Длиннокрылая акула – гроза кораблекрушений. **18.05** Берег хищников. **21.20** Необъяснимая Земля. **22.15, 23.00, 0.35** Мутации погоды. **23.45** Невероятные встречи с животными. **1.20** Выживание в дикой природе. **2.10** В зоопарке Таронга. **3.00** Спасение диких медведей. **3.25** Уличный ветеринар. **3.50, 4.15, 4.45** Постыдные проблемы питомцев. **5.10** Подработка в дикой глуши.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00, 5.35** Научные глупости. **6.50, 5.00** Авто-SOS. **7.40, 8.35** Дикий тунец. **9.25** Международный аэропорт Дубай. **10.15, 11.10, 22.40, 23.30, 0.20** Суперсооружения: чудеса инженерии. **12.00, 12.50** Экстремальное путешествие: Вторая мировая война. **13.40, 14.30, 15.20, 19.20** Винни Джонс: самые крутые сюжеты о России. **16.10, 17.00, 17.45, 18.30** Дикая природа России: Последние неизведанные просторы. **20.10** Тайная история. **21.00** 1917: Один год – две революции. **21.50** Панорама 360. **1.10, 1.55, 2.40** Суперсооружения Третьего рейха: Война с СССР. **3.25** Неизвестная планета земля. **4.15** Служба безопасности аэропорта: Бразилия.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 7.00, 9.05, 10.10, 11.00, 12.05, 13.10, 14.00, 15.05, 16.00, 17.05, 17.55, 19.00, 20.05, 21.15, 22.25, 23.15, 0.00, 1.10, 1.55, 2.55, 3.55, 5.00** Рыбалка без границ. **6.30, 7.30, 8.35, 9.40, 11.30, 12.40, 13.45, 14.35, 16.30, 17.35, 18.30, 19.35, 20.40, 21.45, 23.45, 0.35, 2.25, 3.25, 4.30, 5.30** Дело вкуса. **6.45, 7.40, 8.50, 9.50, 10.40, 11.45, 12.55, 14.50, 15.40, 16.45, 18.45, 19.50, 20.55, 22.05, 22.55, 0.55, 1.40, 2.40, 3.40, 4.45, 5.45** Охотничья и рыболовная кухня. **8.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.20** У мангала. **6.30 6.30 6.30, 10.25 10.25 10.25, 14.25 14.25 14.25, 18.30 18.30 18.30, 22.35 22.35 22.35, 2.50 2.50 2.50** ..И КОМПОТ! **6.45, 10.45, 14.45, 18.45, 22.50, 3.05** Кашеварим. **7.00, 11.05, 15.00, 19.05, 23.10, 3.20** Побег из города. **7.30, 15.30, 19.35, 23.40, 3.50** Тихая моя родина. **8.00, 12.05, 16.05, 20.05, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 12.40, 16.40, 0.50, 4.50** Детская мастерская. **8.55, 16.55, 21.00, 1.05, 5.05** Старинные русские усадьбы. **9.25, 13.25, 1.35** Жизнь в деревне. **11.35** Идеальный сад. **12.55** Мастер-садовод. **17.30, 21.30, 5.35** Безопасность. **20.40** Варенье. **2.05** Мультиварка.

## Беларусь 1

**5.50** Х/ф **«БОЛЬШОЙ АРТИСТ».**

**7.55** Клуб редакторов.

**9.00, 12.00, 15.00, 19.00** Новости.

**9.10** «Арсенал». Программа об армии.

**9.40** Истории спасения.

**10.15** «Зона Х». Итоги недели.

**10.50** Маршрут построен.

**11.30** «Вопрос номер один».

**12.10** Новости. Центральный регион.

**12.35** Х/ф **«ПРОСТИТЬ ЗА ВСЕ».**

**14.25** Один день.

**15.15** Вокруг планеты.

**15.55** «Повод есть».

**16.30** Х/ф **«КРЫЛЬЯ ПОБЕДЫ».**

**16.45, 19.10** Х/ф **«БЕГЛЯНКА 2».**

**20.35** Навіны надвор'я.

**21.00** Главный эфир.

**22.30** Х/ф **«ТАКСИСТКА».**

## Беларусь 2

**6.00** «Включайся. Лучшее за неделю». Утреннее шоу.

**8.00, 19.30** Телебарометр.

**8.05** Т/с **«КЛОН».**

**10.00** «Три первых свидания». Реалити-шоу.

**10.45** Х/ф **«ОДНАЖДЫ В РИМЕ».**

**12.25** «На ножах». Кулинарное реалити-шоу.

**13.20** «Папа попал». Реалити-шоу.

**15.05** «Башня». Интеллектуально-развлекательное шоу.

**16.00** Теннис. Ролан Гаррос. Мужчины. Финал.

**20.00, 21.15** Х/ф **«ТРЕНЕР».**

**21.10** Спортлото 5 из 36, КЕНО.

**22.35** «Любовь на выживание». Романтическое реалити-шоу.

## Беларусь 3

**7.35** «Хочу бодаться». Мультфільм.

**7.45** «Святыні Беларусі».

**8.10, 14.10** Навіны культуры.

**8.30** «Дзяўчына без адрасу». Мастацкі фільм.

**10.00** «Наперад у мінулае».

**10.25** «Беларуская кухня». Запяканка з рыбы.

**10.55** «Нацыянальны хіт-парад».

**11.45** «Народны майстар». Святлана Скаварыка (маляваныя дываны).

**12.15** «Зорра». Мастацкі фільм.

**14.30** «34-ы хуткі». Мастацкі фільм (СТ).

**15.55** Т/ф **«АДАМАВЫ ЖАРТЫ».**

**17.20** «Кадры жыцця». Сцэнарыст, рэжысёр, прадзюсар Юрый Ігруша.

**18.15** «Звычайны цуд». Мастацкі фільм.

**20.40** «Калыханка».

**21.05** «Дайце кнігу скаргаў«. Мастацкі фільм.

**22.35** Канцэртная праграма «Гучаць фанфары Беларусі».

## ОНТ

**7.00, 9.00, 16.00** Наши новости.

**7.10** Х/ф **«БЛОНДИНКА ЗА УГЛОМ «.**

**9.10** ОНТ представляет: «Метеогид».

**9.30** Х/ф **«СОЛДАТ ИВАН БРОВКИН».**

**11.15** Х/ф **«ИВАН БРОВКИН НА ЦЕЛИНЕ».**

**13.05** «Видели видео?».

**14.00** Х/ф **«ВЕРНЫЕ ДРУЗЬЯ».**

**16.20** «Юрий Яковлев. «Распустились тут без меня!».

**17.20** Премьера. «Сегодня вечером».

**20.00** Контуры.

**21.20** Х/ф **«МАРАФОН ЖЕЛАНИЙ».**

**23.05** ОНТ представляет: «Спортклуб».

**23.25** Х/ф **«72 МЕТРА».**

## СТВ

**6.30, 23.25** «Пища богов».

**8.10** Документальный проект.

**9.00** «Минтранс».

**10.00** «Добро пожаловаться».

**10.30** «Большой город».

**11.00** «Знаете ли вы, что?».

**12.00, 13.40, 16.40** Т/с **«ГЛУХАРЬ».**

**13.30, 16.30** Новости «24 часа».

**19.30** «Неделя».

**21.05** Документальный спецпроект.

**22.00** «Засекреченные списки».

## Мир

**5.00** Т/с **«ПЕТР ПЕРВЫЙ. ЗАВЕЩАНИЕ».**

**8.50** «Секретные материалы». Революционер на троне. К Дню России.

**9.25** «ФазендаЛайф».

**10.00, 16.00** Новости.

**10.10, 16.15, 19.30** Т/с **«СМЕРТЬ ШПИОНАМ».**

**18.30, 0.00** Итоговая программа «Вместе».

**20.10, 1.00** Т/с **«СМЕРТЬ ШПИОНАМ. КРЫМ».**

**2.30** Х/ф **«В ШЕСТЬ ЧАСОВ ВЕЧЕРА ПОСЛЕ ВОЙНЫ».**

## НТВ-Беларусь

**6.00** «Астропрогноз».

**6.10** «Тело человека».

**6.45** Беларусы.

**7.20** «50 рецептов первого».

**8.00, 10.00, 16.00** «Сегодня».

**8.20** «24 вопроса».

**8.45** «Города Беларуси».

**9.25** «Я хочу это увидеть!».

**10.20** «Квартирный вопрос. Ву».

**10.50** «Первая передача».

**11.20** «Чудо техники».

**12.10** «Дачный ответ».

**13.10** «НашПотребНадзор».

**14.05** Т/с **«ГОСУДАРСТВЕННАЯ ГРАНИЦА».**

**15.20, 16.20** «Следствие вели…».

**18.00** «Новые русские сенсации».

**19.00** «Итоги недели» с Ирадой Зейналовой.

**20.05** Премьера. «Ты супер! 60+».

**22.20** «Звезды сошлись».

**23.40** «Понять и обезвредить». Авторский проект Елены Дамиевой.

## БЕЛАРУСЬ РТР

**7.05** «Специальный репортаж».

**7.35** Х/ф **«КНЯЖНА ИЗ ХРУЩЕВКИ».**

**11.00** Х/ф **«НЕПУТЕВАЯ НЕВЕСТКА».**

**14.30** Х/ф **«МАЛАХОЛЬНАЯ».**

**16.30** Х/ф **«КАТЬКИНО ПОЛЕ».**

**20.00** ВЕСТИ НЕДЕЛИ.

**21.05** «В людях».

**21.45** Х/ф **«ПОДДЕЛЬНАЯ ЛЮБОВЬ».**

**23.20** МОСКВА. КРЕМЛЬ. ПУТИН.

**23.55** «Воскресный вечер с Владимиром Соловьевым».

## кіно і спорт

### TV1000

**5.10, 0.50** Любовь и другие лекарства. **7.10, 2.50** Виноваты звёзды. **9.20** Спеши любить. **11.10** Сумерки. Сага. Рассвет: 1 ч. **13.05** Сумерки. Сага. Рассвет: 2 ч. **15.00** История одного вампира. **16.50** Мир Юрского периода. **19.00** Парк Юрского периода. **21.10** Парк Юрского периода 2: Затерянный мир. **23.25** Парк Юрского периода 3.

### TV1000 ACTION

**5.10, 15.05** Вспомнить всё. **7.15** Железный кулак. **8.45** Большой переполох в маленьком Китае. **10.30** 12 обезьян. **12.40** Особое мнение. **17.05** Ограбление по-итальянски. **19.00** Инкассатор. **20.25** Мальчики-налётчики. **22.15** Киллер. **0.10** Убийца 2. Против всех. **2.15** Криминальное чтиво.

### TV1000 РУССКОЕ КИНО

**5.05, 15.10** Выкрутасы. **7.00** Побег. **9.15** Час пик. **11.15, 2.15** Селфи. **13.15, 4.05** ПираМММида. **17.00** 8 первых свиданий. **18.30** 8 новых свиданий. **20.00** 8 лучших свиданий. **21.45** 2 дня. **23.15** Убежать, догнать, влюбиться. **0.40** ЖАRA.

### ТВ3

**6.00, 5.45** Мультфильмы. **8.45** «Новый день». **9.20, 9.55, 10.30, 11.00, 11.35, 12.10** «Старец». **12.45** Х/ф **«ГОЛОДНЫЕ ИГРЫ». 15.30** Х/ф **«ГОЛОДНЫЕ ИГРЫ: И ВСПЫХНЕТ ПЛАМЯ». 18.30** Х/ф **«ГОЛОДНЫЕ ИГРЫ: СОЙКА-ПЕРЕСМЕШНИЦА. ЧАСТЬ 1». 20.45** Х/ф **«ГОЛОДНЫЕ ИГРЫ: СОЙКА-ПЕРЕСМЕШНИЦА. ЧАСТЬ 2». 23.30** Х/ф **«УИДЖИ: ДОСКА ДЬЯВОЛА». 1.15** Х/ф **«УИДЖИ: ПРОКЛЯТИЕ ДОСКИ ДЬЯВОЛА». 2.45, 3.30, 4.15, 5.00** Т/с **«БАШНЯ. НОВЫЕ ЛЮДИ».**

### ФЕНИКС

**8.00, 9.00, 10.00, 11.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00** Т/с **«ПЯТЬ ШАГОВ ПО ОБЛАКАМ». 12.00, 20.00, 4.00** Т/с **«ОБЩАЯ ТЕРАПИЯ 2». 13.00, 21.00, 5.00** Т/с **«ЛАСТОЧКИНО ГНЕЗДО». 14.00, 22.00** Т/с **«УЛЫБКА ПЕРЕСМЕШНИКА». 15.00, 23.00** Т/с **«НАПАРНИЦЫ». 0.00, 1.00** Т/с **«ТАТЬЯНИН ДЕНЬ». 2.00, 3.00** Т/с **«НЕРАВНЫЙ БРАК». 6.00** Т/с **«ДВОЙНАЯ ЖИЗНЬ». 7.00** Т/с **«ЖЕНСКИЕ МЕЧТЫ О ДАЛЬНИХ СТРАНАХ».**

### КИНОКОМЕДИЯ

**1.05** Х/ф **«ОДНАЖДЫ ПРЕСТУПИВ ЗАКОН». 3.00** Х/ф **«100 ВЕЩЕЙ И НИЧЕГО ЛИШНЕГО». 5.00** Х/ф **«ПАПАШИ». 6.45** Х/ф **«УДАЧИ, ЧАК». 8.35** Х/ф **«СМЕРТЬ НА ПОХОРОНАХ». 10.15** Х/ф **«ЖИВОТНОЕ». 11.45** Х/ф **«ОХОТНИКИ ЗА ПРИВИДЕНИЯМИ». 13.45** Х/ф **«ШАФЕР НАПРОКАТ». 15.35** Х/ф **«МИЛЛИОНЕР ПОНЕВОЛЕ». 17.20** Х/ф **«КРУТАЯ ДЖОРДЖИЯ». 19.30** Х/ф **«ТОЛСТЯК НА РИНГЕ». 21.25** Х/ф **«СТАРСКИ И ХАТЧ». 23.15** Х/ф **«ОЧЕНЬ ОПАСНАЯ ШТУЧКА».**

### КИНОСЕРИЯ

**0.40, 1.40, 12.50, 13.45, 14.40, 15.45, 16.30, 17.20, 18.15, 19.10, 20.00, 20.55, 21.50, 22.45, 23.40** Т/с **«ЧИСТО АНГЛИЙСКИЕ УБИЙСТВА». 2.30, 3.55, 4.45, 5.40, 6.35, 7.35, 8.30, 9.25** Т/с **«ОТЛИЧНИЦА». 10.20** Т/с **«МАТРИЦА».**

### ВТВ

**6.05** «ДУРАКИ И ДОРОГИ». **7.25** Шоу «УТРО С ЮМОРОМ». **9.25, 16.45** «КВН. ПА-НАШАМУ». **10.00, 3.05** Make-over шоу «РОГОВ В ДЕЛЕ». **11.00** Шоу «МИША ПОРТИТ ВСЁ». **12.00** Реалити-шоу «НАШ РЕМОНТ». **12.40** Х/ф **«ЗАМБЕЗИЯ». 14.20** Т/с **«СТОРИЗ». 17.15** Х/ф **«РИМСКИЕ СВИДАНИЯ». 19.00** Х/ф **«ВСЁ И СРАЗУ». 21.00** Шоу «СТЕНДАП АНДЕГРАУНД». **22.05, 1.10** Юмористическое шоу «УРАЛЬСКИЕ ПЕЛЬМЕНИ». **23.40** Реалити-шоу «ГАЛЕРЕЯ КРАСОТЫ». **0.10** «КИНО В ДЕТАЛЯХ». **2.35** «ПРОСТО КУХНЯ». **3.55** Т/с **«ПАПИНЫ ДОЧКИ». 5.05** Скетч-шоу «6 КАДРОВ».

### БЕЛАРУСЬ 5

**6.30** Дзюдо. Чемпионат мира. Будапешт. Финалы. **8.00** Теннис. Ролан Гаррос. Женщины. Финал. **9.55, 12.55** Художественная гимнастика. Чемпионат Европы. Финал. **12.10** Вот это спорт! **12.25** Пит-стоп. **14.25** Хоккей на траве. Кубок Беларуси. Мужчины. Финал. **15.45** Футбол. Чемпионат Европы. Англия – Хорватия. **17.50** Спорт-центр. **18.00** Дзюдо. Чемпионат мира. Будапешт. Команды. Финалы. **18.55** Футбол. Чемпионат Европы. Австрия – Северная Македония. В перерыве Спорт-центр. **20.55** Итоги недели. **21.45** Футбол. Чемпионат Европы. Нидерланды – Украина. В перерыве Спорт-центр. **23.55** Футбол. Беларусбанк – Чемпионат Беларуси. 12-й тур. Обзор. **0.40** Гандбол. Лига Чемпионов. Мужчины Финал 4-х. Финал.

### EUROSPORT

**0.00, 5.00, 9.30** Велоспорт. «Тур Бельгии». Четвертый этап. **1.00** Снукер. Чемпионат мира. Финал. Селби – Мёрфи. **2.30, 7.00, 11.00** Теннис. «Ролан Гаррос». Женщины. Финал. **4.00, 8.30** Велоспорт. «Тур Словении». Четвертый этап. **6.00** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. Пары. Финал. **10.30, 14.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. Полуфинал. **12.25** Теннис. «Ролан Гаррос». Женщины. Пары. Финал. **15.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Мужчины. Финал. **19.30** Автогонки. World Endurance. Портимау. **21.30** Теннис. «Ролан Гаррос». Обзор. **22.30** Велоспорт. «Тур Бельгии». Пятый этап. **23.30** Гребной слалом. Кубок мира. Прага.

## хобі і адпачынак

### ДРАЙВ

**6.00** Авто. Вторые руки. **6.30, 17.50, 1.30** Супергрузовики. **7.15, 3.25** Советы для каждого. **7.45, 8.15, 18.40, 3.50, 4.45** Проверка на дороге. **7.55, 10.10, 13.15, 16.30, 19.00, 23.25, 1.15, 4.05** Итоговые новости. **8.35** Возвращение легенды. **9.05** Испытание на прочность. **9.40** Всё включено. **10.30** Комплектация. **11.00** Автолайф. **11.20, 19.30, 22.50** Автомобильные музеи мира. **11.50, 20.00, 23.40** Тест с дядей Ваней. **12.35, 0.20** Байки про байки. **13.35, 1.00** Мото тест-драйв. **13.50, 2.20** Тест на «Драйве». **15.00** Сити тестер. **15.35, 5.00** Эконом-тест. **15.55, 20.40** Теория полного привода. **16.50, 21.45, 5.20** Советы юриста. **17.35** Аварийная ситуация. **19.20, 22.35** Наезд! **21.15** Кругосветка по бездорожью. **4.20** Сити-тестер.

### EXPLORE

**6.00, 6.50, 7.45, 8.35, 9.30, 10.20** Речные чудовища. **11.10** Винтажные электромобили. **12.00, 23.45** Снос в Австралии. **12.50, 13.40, 14.25, 15.10, 16.00, 16.45, 17.35, 18.20, 19.05, 19.55, 20.40, 21.25, 22.15** Австралийские золотоискатели. **23.00** Бирюзовая лихорадка. **0.35, 1.20, 2.10, 2.55, 3.45, 4.30, 5.20** Ледовые викинги.

### HISTORY

**6.15** Невероятные изобретения. **6.40, 7.25, 11.20, 12.05** Музейные тайны. **8.10, 2.45, 3.35, 4.25, 5.15** Очень странные экспонаты. **9.00, 9.45, 10.35, 1.15, 2.00** Тайны музеев. **12.45** Вена: империя, династия и мечта. **13.40, 23.30** Великая эпидемия чумы в Лондоне. **14.30, 15.15** Расшифровка тайн. **16.00** Древние небеса. **17.00** Генрих VIII: человек, монарх, чудовище. **17.50, 18.50, 19.55** Дети королевы Виктории. **21.00, 21.50, 0.20** Помпеи: 48 часов до катастрофы. **22.40** Салемские ведьмы.

### NATURE

**6.20** Невероятные животные. **7.10** Длиннокрылая акула – гроза кораблекрушений. **8.05** Берег хищников. **8.55, 9.45** Спасти акулу! **10.30** Нераскрытое дело динозавра. **11.20** Расцвет млекопитающих. **12.15** Вскрытие мамонта. **13.05, 13.55, 14.45** Уэльс: дикая земля. **15.40, 16.30, 17.20, 18.15** Дикая Центральная Америка с Найджелом Марвеном. **19.05** Охота на гиппопотамов Эскобара. **20.00, 20.50, 21.45, 22.35, 23.25** Речные чудовища. **0.20** Невероятные встречи с животными. **1.10** Мутации погоды. **1.55** Выживание в дикой природе. **2.45** В зоопарке Таронга. **3.50** Спасение диких медведей. **4.15** Уличный ветеринар. **4.40** Постыдные проблемы питомцев. **5.10** Подработка в дикой глуши.

### NATIONAL GEOGRAPHIC

**6.00** Научные глупости. **6.45, 7.30, 8.20** Техасский улов. **9.10** Международный аэропорт Дубай. **10.00, 10.55** Activate: глобальное гражданское движение. **11.50, 12.40, 13.30, 1.05, 3.35** Авто-SOS. **14.20, 15.10, 15.55** Космос: возможные миры. **16.50, 17.40, 18.35, 19.25** Марс 2. **20.10** Необычные промыслы. **21.00** Служба безопасности аэропорта: Рим. **21.50, 22.40** Служба безопасности аэропорта: Бразилия и Перу. **23.25, 0.15** Настоящий суперкар. **2.00, 2.45** Осушить океан. **4.20, 5.10** Антарктика.

### ОХОТА И РЫБАЛКА

**6.00, 10.05, 22.05, 2.05** Ружейная охота. Первые шаги. **6.30, 22.35, 2.35** Сам себе охотник. **7.00, 10.50, 14.55, 19.00, 23.10, 3.05** Нахлыст без границ. **7.30, 11.20, 15.25, 19.30, 23.40, 3.35** Мир рыболова. **8.00, 11.50, 15.55, 20.00, 0.10, 4.05** Рыболовные путешествия. **8.30, 12.20, 0.40, 4.35** Рыболовная школа для взрослых. **9.00, 12.50, 16.55, 1.10, 5.00** Сомы Европы. **9.35, 17.30, 5.35** Рыбалка сегодня XL. **10.35** Кодекс охотника. **13.25, 21.35, 1.40** Рыбалка 360. **13.55, 18.00** Охота и рыбалка в. **14.25, 18.30** Егерский кордон. **16.25, 20.30** Мир охотника. **21.00** На рыбалку с охотой.

### УСАДЬБА

**6.00, 9.55, 13.55, 18.00, 22.00, 2.20** У мангала. **6.30 6.30 6.30, 10.25 10.25 10.25, 14.25 14.25 14.25, 18.30 18.30 18.30, 22.35 22.35 22.35, 2.50 2.50 2.50** ..И КОМПОТ! **6.45, 10.45, 14.45, 18.45, 22.50, 3.05** Кашеварим. **7.00, 11.00, 15.00, 19.05, 23.10, 3.20** Побег из города. **7.30, 11.30, 15.30, 19.35, 23.40, 3.50** Тихая моя родина. **8.00, 12.05, 16.05, 20.05, 0.10, 4.20** Лучки-пучки. **8.20, 12.25, 16.25, 20.25, 0.30, 4.35** Готовим на природе. **8.35, 12.40, 0.50** Детская мастерская. **8.55, 12.55, 16.55, 21.00, 1.05, 5.05** Старинные русские усадьбы. **9.25, 17.30, 21.30, 1.35, 5.35** Безопасность. **13.25** Жизнь в деревне. **16.40, 20.40, 4.50** Варенье. **2.05** Вокруг сыра.

# Што вядома пра гісторыю вілейскай пошты

ВІЛЕЙКА

**У Вілейскім краязнаўчым музеі мне паказалі фота 1931 года. На ім – школьнікі, якія прыехалі ў Вілейку на экскурсію. Група дзяцей і дарослых сфатаграфавалася каля помніка, на фоне вялікага і прыгожага будынка. Паўсталі пытанні: «Дзе гэта месца ў Вілейцы?», «Каму помнік?» і «Што гэта за будынак?».**



Фота з архіва Вілейскага краязнаўчага музея.

Вілейка, 1930-я гады. Ля помніка Пілсудскаму. На заднім плане бачны двухпавярховы мураваны будынак, які стаў пачаткам гэтай гісторыі.

З помнікам мне адразу ўсё было зразумела. Гэта помнік Пілсудскаму. Яго ўрачыста адкрылі ў лістападзе 1930 года. На другім здымку ў музеі ёсць той жа помнік, але з іншага ракурсу. На заднім плане – двухпавярховы мураваны будынак. Будынак гэты, добра вядомы па іншых здымках пачатку 20 стагоддзя, стаяў на вуліцы Аляксандраўскай (цяпер Савецкай) там, дзе цяпер знаходзіцца ЗАГС (перакрыжаванне Савецкай і 1 Мая). Значыць, помнік Пілсудскаму знаходзіўся на 1 Мая (тады Дэмб-Бярнацкага), якраз там, дзе цяпер у парку грамадскі туалет.

Помнік і месца здымкі вызначылі. А што наконт пабудовы на першым фота? Выпадкова ў інтэрнэце пабачыў здымак пошты ў Лідзе. Аказаўся падобны. Пачаў шукаць, як выглядала пошта ў Вілейцы. Натрапіў на артыкул пра гісторыю Вілейскага вузла электрасувязі: «... Да 1910 года сувязь падтрымлівалася праз выпадковых спадарожнікаў. У 1910 годзе пошта размяшчалася ў драўляным дамку па вуліцы 1 Мая насупраць парку (кнігарні)... Пасля рэвалюцыі пачалася ўстаноўка першых тэлефонаў. Гэтак жа быў усталяваны тэлеграфны апарат Морзэ». Улічваючы, што ў Расійскай імперыі многія грамадскія будынкі ўзводзіліся па тыпавых праектах, усё сышлося. Вось яна – пошта ў Вілейцы. Будынак пачатку стагоддзя. Сакрэт раскрыты? А вось і не. Гэта сапраўды пошта, але не той будынак пачатку 20 стагоддзя, пра які гаворыцца ў артыкуле пра гісторыю раённага вузла электрасувязі. Я праверыў па аэрафотаздымках Вілейкі 1917 года: на тым месцы, дзе сённяшняя пошта, будынкаў няма.

Першыя згадкі пра пошту ў Вілейцы адносяцца да расійскага перыяду гісторыі горада. У 1793 годзе, у выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай, Вілейка ўвайшла ў склад Расійскай імперыі. А ў 1795 атрымала статус павятовага горада і цэнтра Вілейскага павета ў Мінскай губерні. 6 верасня 1795 года быў выдадзены імянны ўказ Кацярыны Другой генерал-губернатару Туталміну «Пра ўладкаванне поштаў і ўтрыманне іх у губернях: Мінскай, Валынскай, Падольскай і Брацлаўскай». Гэтым указам вызначаліся паштовыя дарогі па паўночна-заходнім краі. Таксама пазначалася, дзе арганізаваць станцыі для ўнутраных паштовых сувязяў і колькі коней і паштальёнаў павінна быць на кожнай станцыі. Для будаўніцтва станцый увялі фіксаваны падатак на тры гады. Па Мінскай губерні – 69 тысяч рублёў. Ва ўказе гаворыцца: «... Звыш таго, для зносін губернскіх гарадоў з павятовымі і павятовых паміж сабой належыць уладкаваць станцыі: Вілейка: 8 коней і 4 паштальёны».

Праз Вілейку праходзіў паштовы тракт з Мінска ў Дзісну. Сучасная вуліца Савецкая і была часткай гэтага гасцінца, таму ў сярэдзіне 19 стагоддзя называлася Мінска-Дзісенскай.



Фота з архіва Вілейскага краязнаўчага музея.

1931 год. Школьнікі на экскурсіі ў Вілейцы.

У апісанні Вілейкі за 1800 год гаворыцца: «... Па правы бок Пляснёкі (рака Плясннянка) размешчаная, па зноў спраектаванаму плану, для будаўніцтва дамоў месца. Ужо, акрамя абывацельскіх дамоў, паштовы дом пабудаваны...» (кніга «Памяць. Вялейскі раён»). На плане не паказана, дзе знаходзіўся паштовы дом, але сказана, што на правым беразе Пляснянкі (паміж сучаснымі вуліцамі Ходзькі і 1 Мая.) Затое на плане забудовы горада другой паловы 1830-х дакладна пазначанае месцазнаходжанне «паштовага дома і канторы». Гэта скрыжаванне сучаснай Савецкай з вуліцай Дзяржынскага. Па плане пошту меркавалі перанесці бліжэй да парку – на скрыжаванне сучаснай Савецкай і 1 Мая, насупраць ЗАГСа. Не ведаю, ці атрымалася гэта, бо ў 1842 годзе горад і павет увайшлі ў склад Віленскай губерні. Магчыма, планы змяніліся.

У апісанні горада за 1857-1858 гады сказана, што ў Вілейцы ёсць паштовая кантора чацвёртага класа, аднак не гаворыцца, дзе. Што значыць чацвёрты клас? У той час пошта, акрамя непасрэдна паштовых паслуг – дастаўкі паштовай карэспандэнцыі, – аказвала і грузапасажырскія перавозкі. У адпаведнасці з узроўнем аказання паслуг і колькасцю коней на станцыі, яны дзяліліся на чатыры класы.

На месцы, дзе пошта стаяла ў 1830-х (скрыжаванне Савецкай і Дзяржынскага), на фатаграфіі пачатку 20 стагоддзя размешчаная гасцініца «Дагмар». А дзе ж пошта? Найбольш блізкі па часе план горада знайшоўся ў кнізе Сапунова па гісторыі і геаграфіі Вілейскага і Дзісенскага паветаў. План не вельмі дакладны, але на ім, акрамя турмы, адзначаны яшчэ два непадпісаныя будынкі. Адзін – на скрыжаванні вуліц 17 Верасня і 1 Мая, там, дзе цяпер пошта, другі – на скрыжаванні 17 Верасня і Кастрычніцкай, дзе цяпер касцёл.

**Зміцер ХАЦЕНЧЫК,**
**Вілейка.**

*Заканчэнне будзе.*

● КАЛЯНДАР

4 ЧЭРВЕНЯ

**1918.** Апублікаваная «Беларуская граматыка для школ» **Браніслава Тарашкевіча.**

5 ЧЭРВЕНЯ

**1937.** Нарадзіўся скульптар і архітэктар **Валянцін Занковіч.** Адзін з аўтараў мемарыяльнага комплексу Хатынь. Бацька скульптара нарадзіўся на Вілейшчыне.

**1942.** У Ракаве нарадзіўся **Вячаслаў Рагойша**, беларускі філолаг і літаратуразнаўца, прафесар.



6 ЧЭРВЕНЯ

**1941.** Нарадзілася **Эліза Ажэшка**, польская пісьменніца беларускага паходжання. У сваіх творах шырока выкарыстоўвала гродзенскія гаворкі, беларускія фразеялагізмы. Прызнаная класікам польскай літаратуры. Пахаваная ў Гродне, дзе пражыла большую частку свайго жыцця.

**1950.** Нарадзіўся **Аляксей Дудараў**, беларускі пісьменнік і драматург.

**1959.** У Маладзечне пачала вытворчую дзейнасць паштовая скрыня №26 (пазней радыёзавод «Спадарожнік»). У цяперашні час не існуе.

7 ЧЭРВЕНЯ

**1927.** У Варшаве **Барыс Каверда**, супрацоўнік віленскай газеты «Беларускае слова», забіў савецкага пасла **Пятра Войкава**.

8 ЧЭРВЕНЯ

**1942.** У лесе каля Івянца нямецкія нацысты расстралялі 800 яўрэяў. У тым ліку 600 дзяцей. Перад Другой сусветнай вайной у мястэчку жыло каля 2000 яўрэяў. На месцы трагедыі ўсталяваны мемарыяльны знак.

9 ЧЭРВЕНЯ

**1849.** У в. Каловічы ля Вілейкі нарадзіўся **Іван Кандрацьеў**, рускі пісьменнік, паэт-песеннік. Аўтар слоў песень «По диким степям Забайкалья», «Очаровательные глазки» і інш.

10 ЧЭРВЕНЯ

**1994.** У Маладзечне пачаўся другі фестываль нацыянальнай песні і паэзіі.

**Падрыхтаваў Мікола ГАЙДУК.**

# Дзённік мамы чацвёртакласніцы. Вось мы і скончылі пачатковую школу



**Чатыры гады ў нашай газеце працягваецца дзённік мамы. А гэта значыць, скончылася пачатковая школа. І з наступнага года наша гераіня стане вучаніцай пятага класа.**

А пяты клас, лічыць яна, гэта больш складана і адказна. Новыя прадметы і настаўнікі, многія з якіх ведаюць старэйшую сястру Юлю як дзяўчынку-выдатніцу, якая да таго ж вершы папісвае. Вара лічыць, што падобных здольнасцяў будуць чакаць і ад яе. Вершы пісаць не абяцала, а вучыцца будзе старацца.

Чацвёрты клас запомніцца яркімі паездкамі. З класам і настаўніцай дзеці пабывалі на аглядавай экскурсіі па сталіцы. Наведалі музей метро і Нацыянальную бібліятэку, з вышыні якой паглядзелі на Мінск. Таксама абавязковым пунктам падарожжа стаў МакДональдс.

Былі і вандроўкі на конкурсы. З танцавальным калектывам «Фісташкі» ездзіла на конкурс «Твой шанец», што праводзілі ў Маладзёвым тэатры эстрады. Прыехалі мы з раніцы, а выступаць, як аказалася, трэба было пасля абеду. Таму мы з Варварай зладзілі вялікі шпацыр па сталіцы. Мама паказала ёй, дзе вучылася, дзе жыла ў студэнцтве і нават краму, дзе прадаваліся смачныя пельмені. А пасля сядзелі ў фірменнай кавярні «Камунарка», пілі гарачы шакалад і глядзелі, як прачынаецца сталіца. Надвор'е спрыяла. Сам конкурс таксама парадаваў другім месцам.

А 22 мая Варвара выступала ў Заслаўі з дудкай. Тут, у мясцовай дзіцячай музычнай школе, праходзіў шосты рэспубліканскі конкурс музычнага мастацтва Беларусі «Спадчына». Можна было выступаць сольна і ў ансамблі. Сольна Варвара пакуль саромеецца, таму іграла толькі з ансамблем. Калектыў стаў лаўрэатам другой ступені. Было крыху часу пагуляць па старажытным паселішчы і сфатаграфавацца каля помніка князю Ізяславу.

Увесь апошні навучальны год Вара яшчэ хадзіла на гурток па флорадызайне ў дзіцячым цэнтры творчасці «Маладзік». Яе не спалохала ні тое, што трэба ездзіць у іншы канец горада, ні тое, што дызайн, мякка кажучы, не канёк нашай сям'і. Затое цяпер кватэра ўпрыгожаная рознымі самаробнымі скарбонкамі, вазамі, пано. А нядаўна зрабіла два прыгожыя дэкаратыўныя дрэвы. Адно з іх такое цяжкое і вялікае, што мусіў тата на машыне забіраць з гуртка дачушку разам з дрэвам.

Вынікамі за гэты навучальны год дзіця задаволенае. Мае дзве васьмёркі – па рускай мове і матэматыцы. Астатнія – дзявяткі і дзясяткі. Атрымала дзве граматы – адну за поспехі ў вучобе, другую – за актыўны ўдзел у інфармацыйных гадзінах у класе, бо рэгулярна і сумленна пераказвала там навіны з «Рэгіянальнай газеты».

Летам Варвара хоча на мора, толькі вось сітуацыя для паездак пакуль не вельмі. Але мы спадзяёмся на лепшае. Маме, дарэчы, таксама на мора хочацца.

**Аксана ЯРАШОНАК.**
**Фота аўтара.**



Варвара падчас конкурсу «Твой шанец».



Героі свята.



Апошні званок даюць Вікторыя Чарненка і Уладзіслаў Гатоўка.



Настаўніца Таццяна Бруева са сваімі выпускнікамі.

# Каляровы дым і віншаванні дырэктара на роднай мове

## Як прайшла лінейка ў СШ №3

ВІЛЕЙКА

**29 мая ў сярэдняй школе №3 прагучаў апошні званок для вучняў 11 і 9 класаў.**

Сёлета атэстаты аб сярэдняй адукацыі ў школе атрымаюць 32 выпускнікі.

– Гэта стужка праз плячо і развітальны вальс кажа пра тое, што вы – выпускнікі сярэдняй школы №3 2021 года. Час ляціць вельмі хутка. Напярэдадні лінейкі, сустракаючыся з бацькамі, чуў ад іх адно і тое ж: «Толькі нядаўна мы адправілі дзяцей у першы клас, а сёння ў іх апошні званок». У гэты дзень кожны з нас прыгадвае найлепшыя дні і гады, праведзеныя ў школе. Жадаю вам здзяйснення ўсіх мар і ведайце, што мы ганарымся вамі – выпускнікамі 2021 года. Ганарымся тым, што толькі 28 мая нашы тры выпускнікі прыехалі з Бабруйска, дзе праходзіў злёт лепшых выпускнікоў 2021 года. Гэта **Аляксей Зубель**, **Аляксандр Мароз** і **Яна Уладыка**, – адзначыў у сваім віншаванні дырэктар школы **Мікалай Гіро**.

Пасля былі віншаванні ад выпускнікоў 50-гадовай даўніны **Галіны Міроненкі** і **Яўгена Маліноўскага**. Яны прыгадалі гады вучобы ў гэтай школе, настаўніцу **Веру Аляксееўну Траццякову**, пажадалі дзецям ведаць не толькі Пушкіна, але і Міцкевіча, які адзін са сваіх вершаў прысвяціў Віліі.

– Здаецца, толькі ўчора мы сустракалі вас на парозе школы маленькімі хлопчыкамі і дзяўчынкамі, такімі смешнымі, з вачыма, напоўненымі цікавасцю, шчасцем і крыху страхам. Хацелася даць вам усе свае веды, любоў, клопат і дабрыню. Праз 11 год, гледзячы на вас, дарослых юнакоў і дзяўчат, разумных, прыгожых, мэтанакіраваных, я разумею, што ўсё было недарма і ў нас з вамі ўсё атрымалася. Ведайце: першы настаўнік памятае кожнага свайго вучня. Жадаю, каб ваша жыццё было напоўненае яркімі ўражаннямі і падзеямі, каб вы пераадолелі ўсе перашкоды, – павіншавала герояў свята іх першая настаўніца **Наталля Андрыеўская**.

Лінейка скончылася традыцыйным вальсам і апошнім званком, які далі выпускнікі **Уладзіслаў Гатоўка** і **Вікторыя Чарненка**. А сучасным упрыгажэннем свята стаў каляровы дым.

Пакуль выпускнікі фатаграфаваліся з бацькамі і дарылі кветкі настаўнікам, мы пагаварылі пра выпуск-2021 з намеснікам дырэктара **Валянцінай Рагоўскай**:

– Сёлета выпускаем два класы: у адным – 15 чалавек, у другім – 17. Усе актыўныя, жыццярадасныя, вясёлыя, гатовыя прыйсці на дапамогу класнаму кіраўніку.

**Чатыры чалавекі з выпуску прэтэндуюць на медалі. А выпускніца Яна Уладыка сёлета заняла першае месца на рэспубліканскай алімпіядзе па фізкультуры, – расказала намеснік дырэктара.**

Тэкст і фота –
Аксана ЯРАШОНАК
aksanayarashonak@gmail.com
(8-0176) 53-78-06

# Меер Аксельрод: якія таямніцы можа раскрыць жоўтая шыйная хустка

## І пры чым тут Ван Гог?




Працы Меера Аксельрода, што захоўваюцца ў Мінскім абласным краязнаўчым музеі. Злева – «Цімох», справа – «Беларус».

**Разам з Мінскім абласным краязнаўчым музеем мы знаёмімся з мастакамі, што паходзяць з Маладзечаншчыны і чые працы захоўваюцца ў фондах установы. Пачнём з творцы, што нарадзіўся ў Маладзечне на вуліцы Замкавай.**

Пра мастакоў, карціны і іх адметнасці расказвае навуковы супрацоўнік Мінскага абласнога краязнаўчага музея **Таццяна Беразавец**.

### Выгналі з Маладзечна

Меер Аксельрод нарадзіўся 5 ліпеня 1902 года ў Маладзечне, дом сям'і размяшчаўся на вуліцы Замкавай.

Міхаіл Яхілевіч у выданні «Вяртанне» адзначае: «Будачаму мастаку Мееру (Марку) Аксельроду ішоў трынаццаты год, калі ў пачатку Першай сусветнай вайны яго сям'ю разам з іншымі яўрэйскімі сем'ямі выгналі з Маладзечна. Улады баяліся, што з-за блізкасці моў яўрэі могуць супрацоўнічаць з немцамі».

Доўгі перыяд сям'я жыла ў Мінску. Там малады чалавек зарабляў плакатамі для кіно, працягваў вучобу. У 1921 годзе дэбютаваў на выставе беларускіх мастакоў у Мінску з замалёўкамі яўрэйскіх кварталаў і могілак. Там яго заўважыў Давід Штрэнберг і запрасіў вучыцца ў Маскву.

**Мастак часта бываў на радзіме, у яго творчасці шмат прац, дзе прыгадваецца жыццё ў Беларусі.**

У пошуках характэрнага тыпажу падарожнічаў па беларускіх мястэчках: «Трэба жыць у доме, сярод людзей. Бачыць побыт. Знаёміцца з людзьмі. Пастарацца заслужыць іх давер і... угаварыць пазіраваць», – дзяліўся ён.

Аксельрод працаваў мастаком-пастаноўшчыкам у многіх спектаклях і фільмах. Афарміў больш за сотню кніг – у асноўным сучасных яму яўрэйскіх і беларускіх пісьменнікаў. Многіх з гэтых аўтараў пасля рэпрэсавалі, адзначае Міхаіл Яхілевіч.

### Працы Аксельрода ў музеі

У пастаяннай экспазіцыі «Гісторыя Міншчыны» месцяцца копіі двух твораў Аксельрода, а арыгіналы захоўваюцца ў фондах. Гэта «Цімох» і «Беларус» – два партрэты, выкананыя гуашшу на кардоне. Калі іх пастаянна экспанаваць, яны прыйдуць у непрыдатны стан. Выстаўляюць арыгіналы на спецыялізаваных выставах, напрыклад, на персанальнай выставе Аксельрода.

У музеі акрамя двух партрэтаў ёсць некалькі экзэмпляраў кніжнай графікі Аксельрода, пейзаж «Беларуская вёска» і некалькі эскізаў. Менавіта кніжная графіка займае вялікае месца ў творчай спадчыне мастака. Дзве кніжныя ілюстрацыі Аксельрода ў фонды здабыў **Генадзь Каханоўскі**, як і слуцкі пояс, які прывёз з Масквы.

### На што намякае шыйная хустка

На карцінах «Цімох» і «Беларус» героі адлюстроўваюць, як у пачатку 20 стагоддзя выглядалі людзі, як апраналіся. На карціне «Цімох» – мужчына з рыжай барадой. Калі пагартаць працы Ван Гога, у яго таксама шмат выяў мужчын з рыжымі барадамі. І «Цімох» нагадвае творы нідэрландскага творцы. Навуковы супрацоўнік адзначае, што па працах відаць, што Аксельрод арыентуецца ў тым, што з мастацтвам адбываецца на захадзе.

– Яго працы з натуры хуткія, тэмпераментныя і вострыя, – адзначае Таццяна Беразавец. – Аксельрод ніколі не быў імпрэсіяністам.

**У яго творчасці, безумоўна, панаваў валявы, канструктыўны пачатак. А ў раннія гады і акрэслена экспрэсіўнае. Але з гадамі заўважна ўзмацняліся жывапісныя тэндэнцыі, жаданне будаваць прастору і форму колерам. Заўсёды шчыльным, але са складаным і тонкім нюансам.**

Праца зробленая лёгка, эскізна. Агульныя рысы выразныя, але не прамаляваная кожная валасінка.

Мужчынская верхняя вопратка сялян на тэрыторыі Беларусі мала адрознівалася лакальна. Кажух насілі як на ўсходзе, так і на захадзе Беларусі.

– Для яго характэрныя шырокія абагульняючыя форму мазкі, – каментуе эксперт. – Яго каларыт нярэдка скупы і часам даволі ўмоўны. Аксельрод пранікліва бачыў натуру і ўмеў падкрэсліць натуральную характэрнасць позы і рысаў твару. Яго героі ўзятыя, здаецца, вельмі проста: буйным планам, набліжаныя да гледача, у неглыбокай прасторы, без лішніх тлумачальных падрабязнасцяў. Але як па-рознаму жывуць на плоскасці аркуша і як дакладна абраны кожнай мадэлі душэўны стан!

У працы «Беларус» галаўны ўбор крыху ссунуты набок. У гэтага персанажа праглядаецца дэталь, якая нагадвае шыйную хустку. Беларуская шляхта мела некалькі ўзроўняў, і нават самыя бедныя прадстаўнікі імкнуліся падкрэсліць паходжанне. Шляхты ў гэты перыяд ужо не было, але людзі, што паходзілі з гэтага саслоўя, спрабавалі вылучыцца. Захоўвалі альбо жоўтыя боты, альбо жоўтую шыйную хустку. Іх называлі шарачковай шляхтай – таму што хадзілі ва ўсім шэрым.

– У нас гэта рыса засталася, – разважае Таццяна Беразавец. – Шляхціц прадаваў апошнюю карову, але ехаў на Сейм ва ўборы, як у магната.

**Вось і герой карціны «Беларус» выглядае моднікам, які можа мець шляхетнае паходжанне.**

– Адзначым, што колеры Аксельрода, як пераважна і ў творах беларускага мастацтва, земляныя. Гэтая адметнасць добра заўважная ў пейзажах беларускага мастака Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Ён адлюстраваў менавіта тыповыя беларускія колеры, паказаў наша звычайнае надвор'е. Нашы колеры – умбрыстыя, рыжаватыя, несакавітыя зялёныя. Як і ў Аксельрода.



Падрыхтавала Зоя ХРУЦКАЯ
regionnews@rh.by
(8-033) 66-719-77

# Прысуд гальшанскаму «тэрарысту» пакінулі без змяненняў

**Гальшанцу Івану Вярбіцкаму пакінулі прысуд без змяненняў: мужчыну абвінавачвалі па тэрарыстычным артыкуле за паведамленні ў тэлеграм-канале і прысудзілі восем год зняволення.**




Іван Вярбіцкі ў зале судовага пасяджэння.

25 сакавіка ў Гродзенскім абласным судзе прайшла апеляцыя па справе Вярбіцкага, паведаміла прэс-служба структуры. Абласны суд пакінуў прысуд без змяненняў, а апеляцыйную скаргу абвінавачанага і абаронцы пакінуў без задавальнення. Прысуд набыў законную моц.

Нагадаем, 15 сакавіка суд Смаргонскага раёна прысудзіў Івану Вярбіцкаму 8 год і 1 месяц калоніі ўзмоцненага рэжыму. Яго абвінавачвалі па чатырох артыкулах Крымінальнага кодэкса: за падбухторванне да здзяйснення акта тэрарызму, саўдзел у злачынстве, незаконныя дзеянні ў дачыненні да агнястрэльнай зброі, боепрыпасаў і выбуховых рэчываў і за знішчэнне афіцыйнага дакумента. Вярбіцкі прызнаў віну толькі па адным артыкуле – аб знішчэнні афіцыйнага дакумента.

Мужчыну прызналі вінаватым па трох артыкулах, па артыкуле аб незаконных дзеяннях у дачыненні да зброі апраўдалі.

У кастрычніку 2020 года Вярбіцкі пакінуў у двух тэлеграм-каналах паведамленні, якія сілавыя органы расцанілі як падбухторванне да здзяйснення тэрарыстычнага акта. У іх мужчына нібыта заклікаў падпаліць ашмянскую пракуратуру і пашкодзіць маёмасць астравецкіх сілавікоў. Сам падсудны расказаў, што гэта быў жорсткі жарт з сілавікоў. Падчасператрусу ў Вярбіцкага знайшлі порах і патроны, а ён сам парваў пастанову абператрусе.

**Настасся УТКІНА.**
**Фота аўтара.**

## Двух жыхароў Радашкавічаў і смаргонца прызналі палітзняволенымі

**Беларускія праваабарончыя арганізацыі прызналі смаргонца Руслана Валюка і двух жыхароў Радашкавічаў Сяргея Шабуню і Паўла Федукевіча палітычнымі зняволенымі, паведамляе незарэгістраваны праваабарончы цэнтр «Вясна».**

Руслана Валюка асудзілі па артыкуле 188 Крымінальнага кодэкса ў лютым 2021 года. Разам з ім судзілі **Інэсу Маркаву**. Мужчыну прысудзілі два гады «хіміі». Ён ужо адбывае пакаранне ў папраўчай калоніі.

Пасля завяршэння пасяджэння па крымінальнай справе Валюка і Маркавай у калідоры смаргонскага суда хтосьці з людзей, што падтрымлівалі абвінавачаных, крыкнуў «Жыве Беларусь!». Затым частку людзей затрымалі, а ў красавіку прысудзілі штрафы і адбыццё адміністрацыйнага арышту. Таксама вядома, што аддзяленне Следчага камітэта ў Смаргоні ўзбудзіла па факце воклічу «Жыве Беларусь!» крымінальную справу аб злосным хуліганстве.

Сяргея Шабуню і Паўла Федукевіча, жыхароў Радашкавічаў, затрымалі ў лістападзе 2020 года каля чыгункі. Іх абвінавачвалі ў блакаванні чыгункі, аднак, па матэрыялах справы, гэтага не адбылося. Абодва прызналі сваю віну.

3 мая ў судзе Маладзечанскага раёна мужчын прызналі вінаватымі па артыкуле 14 і артыкуле 309 Крымінальнага кодэкса і асудзілі кожнага на 1 год і 9 месяцаў пазбаўлення волі ў калоніі агульнага рэжыму.

**Настасся УТКІНА.**

## Дайджэст: «справа Ryanair», змены ў Працоўны кодэкс і новыя забароны

**«Рэгіянальная газета» расказвае пра галоўныя падзеі ў Беларусі і свеце за апошні тыдзень.**

### Еўрапейскі вяшчальны саюз замарозіў сяброўства БТ

Еўрапейскі вяшчальны саюз замарозіў сяброўства Белтэлерадыёкампаніі ў арганізацыі. Саюз даў беларускай кампаніі два тыдні для афіцыйнага адказу, пасля чаго рашэнне набудзе моц.

Замарозка адносін можа азначаць іміджавыя страты на еўрапейскім рынку, беларуская кампанія не зможа праводзіць нацыянальныя адборы і паказваць Еўрабачанне. БДТК не зможа паказваць некаторыя спартыўныя трансляцыі, карыстацца партнёрскімі матэрыяламі і матэрыяламі інфармагенцтваў.

**Аддзел інфармацыі.**

### Расследаванне інцыдэнту з Ryanair: чорная скрыня яшчэ не расшыфраваная

Літва і Польшча распачалі крымінальную справу па факце прымусовай пасадкі самалёта Ryanair у Мінску, але пакуль следчыя ўзважваюць, куды накіраваць чорную скрыню самалёта для аналізу.

The Wall Street Journal паведаміў, што на фоне супярэчлівых заяў некалькіх зацікаўленых урадаў і неактыўнага супрацоўніцтва ў расследаванні авіякампаніі Ryanair польскія і літоўскія следчыя яшчэ не расшыфравалі інфармацыю, што захоўваецца ў чорнай скрыні самалёта.

У чорнай скрыні мусяць захоўвацца звесткі па інцыдэнту з самалётам ірландскай авіякампаніі, што адбыўся 23 мая ў паветранай прасторы Беларусі. Да гэтага часу дакладна невядома, што здарылася паміж беларускімі ўладамі і пілотамі самалёта. У расследаванні маюць права браць удзел Грэцыя, Ірландыя, Літва і следчыя з любой краіны, грамадзяне якой знаходзіліся на борце Ryanair у той дзень.

Нагадаем, 23 мая борт Ryanair, які накіроўваўся з Афінаў у Вільню, экстранна пасадзілі ў Мінску праз паведамленне аб мініраванні самалёта. Пасля высветлілася, што борт не быў замініраваны. Ліст аб мініраванні нібыта даслаў ХАМАС праз канфлікт з Ізраілем. На самалёце знаходзіўся беларускі журналіст **Раман Пратасевіч**, які быў унесены ў спіс людзей, датычных да тэрарыстычнай дзейнасці. Беларускія ўлады абвінавачваюць Пратасевіча ў каардынацыі пратэстаў у жніўні 2020 года. Разам з Пратасевічам была затрыманая яго дзяўчына, грамадзянка Расіі **Сафія Сапега**. Сапегу абвінавачваюць у распальванні сацыяльнай варожасці: нібыта яна размяшчала дадзеныя беларускіх сілавікоў і чыноўнікаў у інтэрнэце.

**Паводле The Wall Street Journal.**

### У Працоўным кодэксе Беларусі будуць новаўвядзенні

Міністэрства працы і сацыяльнай абароны пракаментавала змены ў Працоўны кодэкс. Частка пытанняў дысцыплінарнай адказнасці (п.7 арт.42) дапаўняецца новымі падставамі звальнення з ініцыятывы наймальніка. Гэта адсутнасць на працы ў сувязі з адбыццём адміністрацыйнага арышту. Падставай можа стаць прымус работнікаў да ўдзелу ў страйку, стварэнне іншым работнікам перашкод для выканання іх працоўных абавязкаў, удзел у незаконнай забастоўцы.

Згодна з унесенымі зменамі выключаецца неабходнасць папярэдняга паведамлення прафсаюза пры скасаванні працоўнай дамовы з работнікам.

Змены набудуць моц 30 чэрвеня 2021 года.

**Паводле БелТА.**

Фота забяспечанае Марыяй МЯЛЮК.

Выпускнікі маладзечанскай СШ №5: злева направа Паліна Дзіева, Марыя Мялюк, Яна Лук'янчык, Аліна Белавус, Валянціна Ковіч, Вікторыя Машко, Марыя Каражкіна, Марыя Глушнеўская, Ганна Мілер.

# Самым складаным было вызначыцца з прафесіяй

## Пра што расказваюць выпускнікі

**У маладзечанскай сярэдняй школе №5 сёлета выпускаецца адзін 11-ы клас. Мы распыталіся выпускнікоў пра тое, чым яны цяпер жывуць.**

**Дар'я Смольская** ў 10 класе вучылася па праграме абмену ў Германіі. Таму ў 11 класе давялося зноў прызвычайвацца да беларускай сістэмы адукацыі:

– Нібыта пачынала ўсё нанова, – расказвае дзяўчына. Давялося перастройвацца. Увогуле год быў моцна насычаны – на падзеі, вучобу. Шмат што адбывалася, хацелася паспець адчуць асалоду ад школы.

Дзяўчына яшчэ паспела паўдзельнічаць у абласным этапе алімпіяды па нямецкай мове.

Дар'я здала экзамен па матэматыцы – спадабаўся і працэс, і вынік, васьмёрка выпускніцу задаволіла. Аднак больш напружана рыхтуецца да цэнтралізаванага тэставання. Давядзецца здаваць тэсты па нямецкай мове, рускай, гісторыі Беларусі і грамадазнаўстве. Найбольш хваляванняў перад ЦТ па гісторыі Беларусі – гэты прадмет для маладзечанкі найбольш складаны.

Дзяўчына вельмі чакае раённага выпускнога:

– Шэсце, выпускны ў амфітэатры. Калі раней бачыла, як праходзіць выпускны, чакала, што ў мяне ўсё будзе гэтак жа ўрачыста.

Убор для свята абраць было не так проста. Пасля доўгіх пошукаў аказалася, што тое, што хацела б апрануць на выпускны, ужо ёсць у шафе.

Апошні званок пакінуў змешаныя адчуванні: і радасць, і смутак. Урачыстасць прайшла кранальна і дакладна запомніцца надоўга.

А самым складаным за 11 клас было вызначыцца з прафесіяй і ўніверсітэтам. Дзяўчына плануе паступаць у лінгвістычны універсітэт.

**Расціслаў Лугоўскі** адзначае, што 11 клас прайшоў для яго спакойна і хораша. За першы экзамен атрымаў васьмёрку – як і хацеў. Цяпер вучыць білеты па гісторыі, паўтарае формулы па матэматыцы.

Выпускнікі вельмі рыхтаваліся да апошняга званка. Як прызнаецца Расціслаў, падчас выступлення крыху заблыталіся, але гледачы гэтага не заўважылі.

Куды паступіць, малады чалавек яшчэ вырашае. На прыкмеце гістарычны або юрыдычны факультэт.

**Марыя Мялюк** дзеліцца, што ў 11-м класе было не проста сумяшчаць вучобу, хобі і іншыя справы. Але калі правільна размеркаваць час, яго хапае і на вучобу, і на сяброў. Дзяўчына плануе паступаць у медыцынскі ўніверсітэт у Гродне – вельмі спадабаўся горад.

Для паступлення спатрэбіцца здаваць ЦТ па хіміі, біялогіі і рускай мове. Найбольш хвалюецца перад хіміяй – гэта найбольш складаны для яе прадмет.

На раённы выпускны плануе прыйсці з бацькамі. Ужо набыла для свята ўбор, якім задаволеная.



Фота забяспечанае Веранікай ЛУГОЎСКАЙ.

З класным кіраўніком Вольгай Уладзіміравай Мацвей Аноп і Расціслаў Лугоўскі (справа).

На апошнім званку было сумна развітвацца з аднакласнікамі, не хочацца парываць сувязь, але што зробіш – разважае маладзечанка.

Усе трое адзначылі, што вельмі ўдзячныя настаўнікам, асабліва класнаму кіраўніку **Вользе Міхайлаўне Уладзіміравай**.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

# На Маладзечаншчыне адбыліся спаборніцтвы санітарных дружын

**При ўзнікненні надзвычайных сітуацый адным з наступстваў з'яўляецца паражэнне людзей. Аказваць першую дапамогу пацярпелым будуць не толькі медыкі і выратавальнікі, але і фарміраванні грамадзянскай абароны – санітарныя дружыны.**



Практыкаваліся надзяваць умоўным пацярпелым процівагазы.

Прадстаўнікі прадпрыемстваў і ўстаноў Маладзечанскага раёна прадэманстравалі, як зладжана і дакладна яны могуць дзейнічаць на спаборніцтвах санітарных дружын.

Перад пачаткам мерапрыемства да ўсіх удзельнікаў звярнуўся намеснік галоўнага доктара Маладзечанскай ЦРБ **Уладзімір Сымановіч** і начальнік Маладзечанскага ГРАНС **Дзяніс Ушацкі**. Яны пажадалі камандам паказаць дастойныя вынікі ў барацьбе за прызавыя месцы, праявіць спрытнасць і ўменне правільна дзейнічаць у любой складанай абстаноўцы.

Спаборніцтвы прайшлі на тэрыторыі дзіцячага аздараўленчага лагера «Івалга». Каманды на практыцы дэманстравалі вынік гадавой падрыхтоўкі. Пасля ўрачыстага адкрыцця санітарныя дружыны занялі месцы на старце: кожнай трэба было прайсці пяць этапаў. Спачатку паказаць змесціва санітарных сумак і насілкі для агляду, прадэманстраваць сваё ўменне выкарыстоўваць процівагаз, пасля – аказваць першую дапамогу пры розных траўмах, навыкі дзеяння ў ачагах хімічнага і інфекцыйнага паражэння. Сярод гэтага трэба было аператыўна і дакладна паставіць дыягназ умоўным пацярпелым, накласці павязкі, зрабіць штучнае дыханне, апрацаваць раненні і адказаць на тэарэтычныя пытанні білетаў.

**А яшчэ сярод санітарных дружын праходзіў конкурс мастацкай самадзейнасці.**



Транспартаванне «пацярпелага».



Падчас аднаго з этапаў спаборніцтва.

Судзейская камісія, у якую ўвайшлі медыкі, супрацоўнікі МНС, раённага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі, Чырвонага Крыжа, ацэньвала вынікі спаборніцтваў.

Пераможцам стала санітарная дружына Маладзечанскага камбіната хлебапрадуктаў, якая ў мінулым годзе таксама заняла першае месца.

На другой пазіцыі фінішавала каманда «Вялес-Міта», а трэцяе месца – у Маладзечанскага завода металаканструкцый. Каманда «Вялес-Міта» перамагла і ў конкурсе мастацкай самадзейнасці.

**Марына ГАНЧАРОВА, Маладзечанскі ГРАНС.**
**Фота забяспечанае аўтарам.**

## Маладзечанскія і смаргонскія футбалісты выйшлі ў 1/16 Кубка Беларусі

1 чэрвеня ў Доме футбола адбылося лёсаванне 1/16 Кубка Беларусі.

ФК «Маладзечна» згуляе з «Энергетыкам-БДУ» (выступае ў вышэйшай лізе) у рамках гэтага этапу Кубка. Матчы пройдуць 22-23 чэрвеня. Дакладная дата і час сустрэчы стануць вядомы крыху пазней.

Смаргонскія футбалісты згуляюць супраць дзяржынскага «Арсенала», які выступае ў першай лізе.

**Настасся УТКІНА.**

## Футбол. Другая ліга

Матчы 3 тура ў Мінскім дывізіёне праходзілі 2 чэрвеня. «Маладзечна» гуляла з «Крупкамі», «Вілейка» сустракалася з «Фалько». У Гродзенскім дывізіёне на гэтых выхадных стартуе 4 тур. 5 чэрвеня «ФСК Ашмянскі» выступіць на дамашнім полі супраць ваўкавыскай «Змены», а 6 чэрвеня «Астравец» сустрэнецца са скідзельскім «ФСК Гродзенскі».

**Настасся УТКІНА.**

## «Смаргонь» сустрэнецца са «Слуцкам»

12 чэрвеня «Смаргонь» згуляе са «Слуцкам» у 12 туры чэмпіянату вышэйшай лігі. Сустрэча пройдзе на дамашнім полі смаргонцаў.

Нагадаем, што апошнія матчы прадстаўнікі Смаргоні прайгралі. Смаргонскія футбалісты займаюць перадапошні радок у турнірнай табліцы вышэйшай лігі. У каманды за 11 тураў усяго 1 перамога, а таксама 1 нічыя і 9 паражэнняў.

**Настасся УТКІНА.**

## Жаночая зборная па баскетболе рыхтуецца да чэмпіянату Еўропы

Жаночая зборная Беларусі па баскетболе рыхтуецца да чэмпіянату Еўропы, які пачнецца 17 чэрвеня ў Іспаніі і Францыі.

Зборная правяла дзве таварыскія сустрэчы ў Стамбуле з Турцыяй (52:56) і Расіяй (36:72). Такім чынам, беларускі стартавалі з двух паражэнняў на этапе падрыхтоўкі да чэмпіянату Еўропы. 3 і 4 ліпеня Беларусь згуляе спарынгі ў Празе супраць чэшскай зборнай.

Нагадаем, у складзе жаночай зборнай выступае смаргонка **Юлія Рыцікава**.

**Настасся УТКІНА.**

## 45-гадовы Самсонаў стаў адзіным уладальнікам алімпійскай ліцэнзіі ў зборнай Беларусі па настольным тэнісе

Лідар нацыянальнай каманды па настольным тэнісе **Уладзімір Самсонаў** стаў уладальнікам ліцэнзіі на ўдзел у гульнях у Токіа. Міжнародная федэрацыя настольнага тэніса 1 чэрвеня апублікавала алімпійскі кваліфікацыйны рэйтынг, згодна з якім 45-гадовы беларускі спартсмен знаходзіцца на 29-й пазіцыі і зможа прыняць удзел у гульнях у сталіцы Японіі.

Для Уладзіміра Самсонава гэта будзе сёмая Алімпіяда ў кар'еры. На Алімпіядзе ў 2016 годзе ён заняў чацвёртае месца.

**Паводле НАК Беларусі.**



# Крыжаванка ад «Рэгіянальнай газеты»

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:**
1. Слова, моўны зварот.
3. Публічная дэманстрацыя ці паказ чаго-небудзь у вызначаны прамежак часу.
4. Права карыстацца чужой уласнасцю ў пэўных межах; а таксама права на абмежаванне ўласніка ў пэўных адносінах.
6. Беларускі дзеяч, які ў 1928 годзе стаў акадэмікам Беларускай акадэміі навук. У пачатку 20-х гадоў 20 стагоддзя займаўся дыпламатычнай дзейнасцю. У 1938 годзе расстраляны. У 1990 годзе быў аднаўлены ў званні акадэміка Акадэміі навук Беларусі.
9. Суразмернае, прапарцыянальнае размяшчэнне частак чаго-небудзь у адносінах да цэнтра, сярэдзіны; суразмернасць, прапарцыянальнасць у размяшчэнні.
11. Страціць прытомнасць.
14. Вялікая прадаўгаватая пасудзіна для мыцця, купання.
17. З намерам, свядома.
18. Пэўная прастора, што характарызуецца якой-небудзь агульнай прыкметай.
19. Сукупнасць дробных цвёрдых часцінак і газападобных прадуктаў, якія вылучаюцца ў паветра пры згаранні.
20. Дадатковы тэкст, змешчаны пад асноўным у самым нізе старонкі.
23. Спартыўная гульня ў мяч, які перакідваецца цераз сетку ад адной каманды да другой.
25. Прозвішча навукоўца, чыё імя закладзенае ў капсулу часу лепшых навукоўцаў сусветнай касманаўтыкі ў ЗША. Некаторы час выкладаў у Маладзечне.
26. Частка конскай збруі з сагнутага тонкага ствала дрэва, якая служыць для прымацавання аглобляў да хамута.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:**
2. Сыра, пранізліва холадна.
5. Публічная спрэчка на навуковыя, літаратурныя, маральныя тэмы.
7. Выключнае права, якім карыстаецца хто-небудзь у адрозненне ад іншых.
8. Характэрнае праяўленне або знешняя прыкмета якой-небудзь хваробы.
10. Рознакаляровая паласа, якая атрымліваецца пры раскладанні прамения святла.
12. Той, хто непасрэдна прысутнічаў пры якім-небудзь здарэнні, падзеі.
13. Будучым летам, у будучым годзе.
15. Яшчэ раз, другі раз.
16. Неглыбокая ранка на целе або пашкоджанне на прадмеце ў выглядзе палоскі, зробленае чымсьці тонкім і вострым.
17. Лічбавы знак, які абазначае адсутнасць велічыні.
18. Раптоўна, нечакана, без папярэджання.
21. Невялікая кілбаска, якую ядуць у вараным або смажаным выглядзе.
22. Зачатак вышэйшых раслін, які складаецца з зародка і абалонкі.
24. Беспаветраная прастора.

## Адказы на крыжаванку з №22

**ПА ГАРЫЗАНТАЛІ:** 1. Дэфект. 2. Спачын. 3. Просьба. 5. Статуя. 7. Дачка. 10. Нацiск. 11. Пазіцыя. 12. Вянок. 13. Нота. 16. Профіль. 17. Завал. 19. Задача. 20. Веранда. 21. Дошка. 23. Дэсант. 25. Загон.

**ПА ВЕРТЫКАЛІ:** 4. Стандарт. 6. Нянавісць. 8. Выява. 9. Перамога. 12. Вучань. 14. Нітка. 15. Змова. 17. Заказ. 18. Неба. 20. Вядро. 22. Дэпутат. 24. Стаж.

## ГАРАСКОП НА 4-10 ЧЭРВЕНЯ



**АВЕН.** Слухайце інтуіцыю і ўнутраны голас. Яны не падвядуць у гэты няпросты час. Прыемнае чакае тых, хто закаханы. Спатканні, рамантычныя паездкі і сюрпрызы вам забяспечаны. Выхадныя прысвяціце сабе.



**ЦЯЛЕЦ.** Грошы да вас прыйдуць, адкуль не чакалі. Распарадзіцеся імі з розумам! Галоўнае, не давайце ў доўг безадказным людзям. На працы разбярыцеся ў паперах: занадта шмат усяго назапасілася за апошні час.



**БЛІЗНЯТЫ.** Да некаторых у вашым асяроддзі паўстане занадта шмат пытанняў. Не давярайце нікому, лепш перастрахавацца. Сур'ёзныя праекты пакуль лепш не пачынаць. А вось домам займацца можна і трэба.



**РАК.** Дробязі апынуцца далёка не дробязямі. З сябрамі можа ўзнікнуць канфлікт, але праўда будзе на вашым боку. Перыяд спрыяльны для фізічных нагрузак і дыет. Ад вас спатрэбіцца не так шмат намаганняў, затое вынік абяцае быць ашаламляльным.



**ЛЕЎ.** Фінансавыя ўкладанні рабіце, толькі папярэдне параіўшыся з блізкімі. А вось рашэнні, якія датычацца асабістага жыцця, абдумвайце ў адзіноце.



**ДЗЕВА.** Калі займацца справамі цяпер, то толькі прыемнымі. Абавязковыя можаце адкласці на другую палову чэрвеня. Дайце навакольным зразумець, як з вамі можна паступаць, а як – нельга. Не бойцеся паказаць зубы.



**ШАЛІ.** Начальства на працы будзе прыдзірлівае да вас, але ваша працавітасць дазволіць змяніць меркаванне. На лецішчы лепш не працаваць, а адпачываць, каб назапасіць сілы. З дзецьмі будзьце больш строгія, інакш сядуць вам на шыю. Але сварыцца з імі не трэба, трымаеце нейтралітэт.



**СКАРПІЁН.** Любыя новыя знаёмствы цяпер пойдуць вам на карысць: дзелавыя або рамантычныя. Кантактуйце як мага больш: толькі так вы справіцеся з самотай, якая можа нагнаць у гэты перыяд. Калі збіраецеся нешта абнавіць дома, паспрабуйце зрабіць гэта да канца тыдня.



**СТРАЛЕЦ.** Чаму б вам не закруціць раман? Самы час! Праўда, не факт, што ён будзе працяглы. З грашыма можа быць туга, але не крытычна. Проста не марнуйце занадта шмат.



**КАЗЯРОГ.** Будзьце напагатове, каб не ўпусціць шанец, якога доўга чакалі. У выхадныя вам будзе забяспечаны добры настрой, так што абавязкова падзяліцеся ім з блізкімі. Як мага больш шпацыруйце і дыхайце свежым паветрам!



**ВАДАЛЕЙ.** У любой справе вас будуць чакаць падводныя камяні. Будзьце гатовыя да любога зыходу і прасіце дапамогі пры неабходнасці.



**РЫБЫ.** На працы вы будзеце бліскаць! Праект, над якім працавалі, стане паспяховым. Выкарыстоўвайце гэты час, каб заявіць пра сябе. Аўтаамататарам варта быць асцярожнымі. Гэтак жа як і тым, хто займаецца спортам, – перыяд вельмі траўманебяспечны для прадстаўнікоў знака.

**Эмілія ХВОЯ.**

## СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 5 | 9 | | | 4 | |
| 6 | | | 4 | | | | 8 | 7 |
| | | | | 1 | 6 | 2 | 3 | |
| | | | | | | 7 | | 8 |
| 3 | | | 1 | | | 4 | | 2 |
| 5 | 2 | 8 | 7 | | | | | |
| 9 | | | 6 | | | | | 4 |
| 1 | 3 | | 9 | | | | | |
| | | | 2 | | | | 1 | 5 |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.

# Рэгіянальная газета. Rh.by

Падпішыся на «РГ» у Instagram!
RG_RHBY


## У Маладзечанскай ЦРБ выдаюць сертыфікаты вакцынацыі

**Ад 24 мая ў Маладзечанскай цэнтральнай раённай бальніцы можна набыць сертыфікат, які пацвярджае правядзенне вакцынацыі супраць COVID-19, паведамляюць у ЦРБ.**



Фота Настассі УТКІНАЙ.

Сертыфікат выдаецца па патрабаванні, на платнай аснове, людзям, якія прайшлі вакцынацыю супраць COVID-19.

**Кошт паслугі складае 3,95 рубля.**

На атрыманне трэба запісвацца папярэдне па адрасе: Маладзечна, вуліца Скарыны, дом 5, кабінет 100 (паліклініка №1). Час працы: панядзелак-пятніца з 8:00 да 15:30, абед з 12:00 да 13:00 або па тэлефоне (8 176) 581286.

Атрыманне сертыфікату па адрасе: Маладзечна, Скарыны, 5, кабінет 86 (паліклініка №1), час працы: панядзелак – пятніца з 8:00 да 16:00, абед з 12:00 да 13:00.

Пры атрыманні сертыфікату пры сабе мець: пашпарт, выпіску з медыцынскіх дакументаў (даведку) аб праведзенай вакцынацыі (з амбулаторна-паліклінічнай установы па месцы прапіскі або пражывання); чэк аб аплаце (аплата праводзіцца ў касе – кабінет 100 паліклінікі №1).

**Аддзел інфармацыі.**

## Чытайце праз тыдзень:

**У кожнай прафесіі ёсць моманты, якія раздражняюць. Мы папросім прадстаўнікоў розных прафесій падзяліцца тым, якія моманты ў працы не падабаюцца і як стаць ідэальным кліентам. У наступным нумары пачынаем з прадаўца крамы адзення.**

## 5 чэрвеня, субота

**Вецер:** паўночны, 1-2 м/с



Паводле rp5.by.

## Пачынаецца падпіска на «Рэгіянальную газету» на другое паўгоддзе!

**Каб быць у курсе навін рэгіёна, чытаць жыццёвыя гісторыі і кожны тыдзень даведвацца нешта новае пра мінулае нашага Павілля, вам не трэба будзе хадзіць па «Рэгіянальную газету» штопятніцы, каб купляць у розніцы.**

**Газету з аб'ектыўнай інфармацыяй на роднай мове прынясуць у паштовую скрыню.**

### Падпісацца на «РГ» можна заўжды:

✓ **праз сайт «Белпошты»**



Зарэгіструйцеся на сайце **belpost.by.** У асабістым кабінеце карыстальніка дадайце ваш адрас, а пасля зайдзіце ў акно «Інтэрнэт-падпіска», абярыце «Да каталогу». У акне «Пошук па выданнях» увядзіце назву нашай газеты ці індэкс 63212. Цісніце на спасылку «Рэгіянальнай газеты», якая з'явіцца. Або адсканіруйце QR-код.

У меню абярыце індывідуальную ці ведамасную падпіску, перыяд выпіскі выдання.

✓ **на пошце**
✓ **праз паштальёна**
✓ **праз плацежна-даведачны тэрмінал**

Цана **індывідуальнай падпіскі**, рублёў:

- на месяц – 5.50 / 4.11 (з дастаўкай на адрас падпісчыка / на абаненцкую скрыню або да запатрабавання);
- на квартал – 16.50 / 12.33;
- на паўгоддзе – 33 / 24.66.

Цана **ведамаснай падпіскі:**

- на месяц – 19 / 17.33;
- на квартал – 57 / 51.99;
- на паўгоддзе – 114 / 103.98

**ПАДПІСНЫЯ ІНДЭКСЫ:** *63212 (індывідуальная)* *632122 (ведамасная падпіска).*

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў ІНТЭРНЭЦЕ

## Як вы плануеце правесці свой адпачынак?

«Рэгіянальная газета» запыталася ў вілейчукоў і астраўчан, як яны плануюць правесці адпачынак сёлета.



**Дзмітры, Вілейка:**
– Плануем з сябрамі роварнае падарожжа. Летась ездзілі ў Браслаў. Сёлета ў планах Полацк, Нарач, Астравец.



**Людміла, Вілейка:**
– Я ў дэкрэтным адпачынку.



**Дзяніс, Вілейка:**
– У дадзены момант жыву і працую на тэрыторыі Расіі, планаваў прыехаць адпачыць дадому, у Вілейку, але ў сувязі са становішчам у краіне, калі шчыра, пабойваюся. Сям'я, прырода, больш нічога і не хацелася б.



**Ганна, Вілейка:**
– Я рамесніца, таму ўвогуле «ісці ў адпачынак» няма такога. Як ёсць праца, то трэба працаваць, тым больш, люблю тое, чым займаюся. Але спадзяюся, калі лета парадуе сонечнымі дзянькамі, адпачну на вадасховішчы.



**Аляксандр, Вілейка:**
– Так, буду адпачываць на дачы.



**Настасся, Вілейка:**
– Настаўнікі летам крыху адпачываюць. Планую больш часу праводзіць за горадам і з роднымі людзьмі. Набыла пазл на 1500 элементаў, планую скласці.



**Алег, Астравец:**
– Не планую адпачываць гэтым летам. Усё лета буду працаваць, а можа, штосьці і зменіцца, сам яшчэ не ведаю.

**Падрыхтавала Настасся УТКІНА.**


Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 3500 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№23 (1362) 4.06.2021. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня ТАА «РоллПрынт», 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59-а.
Ліцэнзія №023484 ад 16.02.2018 г.
Зак. 928. Падпісана ў друк у 9.00 3.06.2021.
**Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.**



Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Рэдакцыя: **222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 143, оф. 518.**
Тэл.: **(80176) 53-78-04** (рэклама, факс), **53-78-05** (дырэкцыя, загадчык аддзела інфармацыі), **53-78-06** (журналісты), **(8029) 573-28-47, 676-84-20.**
E-mail: **reklama@rh.by, regionnews@rh.by.** Web: **http://rh.by, рг.бел.**
Разліковы рахунак BY06BELB30121640300040226000 у ААТ «Банк БелВЭБ» аддзяленне ў Маладзечне, BELBBY2X, атрымальнік ТАА «Рэдакцыя газеты «Рэгіянальная газета», УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.